ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№6 (87) чэрвень 2018 год

CATHOLICNEWS.BY

## У Паставах адбылася сустрэча юнакоў Віцебскай дыяцэзіі




Стар. 2

## Новы касцёл асвечаны ў Оршы

**Абрад асвячэння здзейсніў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч з удзелам біскупа Віцебскага Алега Буткевіча**



Стар. 8

## XIV Международная медицинская конференция прошла в Витебске



Стар. 5

## Цяжарнасць і шлюб: пытанне святару



Стар. 11

## "Скарб Хрыста – дзеці"

**Дзіцячае свята прайшло ў Лынтупах**




Стар. 3

Каталіцкі ВЕСНІК №6(87) чэрвень 2018 г.

# Паведамленне Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі адносна падрыхтоўкі да святарства



**25 мая ўвайшоў у сілу Дэкрэт Кангрэгацыі па справах духавенства, які рэгламентуе парадак падрыхтоўкі да святарскага служэння ў Касцёле ў Беларусі і функцыянаванне семінарый.**

Канферэнцыя каталіцкіх біскупаў у Беларусі паведамляе, што 15 мая 2018 года Кангрэгацыя па справах духавенства, кіруючыся распрацаванай Святым Пасадам праграмай падрыхтоўкі святароў Ratio fundamentalis institutionis sacerdotalis, прыняла рашэнне адносна падрыхтоўкі святароў у Беларусі.

Згодна з Дэкрэтам Кангрэгацыі, які ўвайшоў у сілу з 25 мая 2018 года:

– ствараецца падрыхтоўчы курс для кандыдатаў на святарства для ўсіх дыяцэзій у Беларусі з сядзібай у г. Мінску;

– Гродзенская духоўная семінарыя пераўтвараецца ў Міждыяцэзіяльную духоўную семінарыю для Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Гродзенскай і Віцебскай дыяцэзій;

Разам з гэтым у якасці эксперыменту на працягу двух акадэмічных гадоў (2018–2019 і 2019–2020) семінарыя імя св. Тамаша Аквінскага ў г. Пінску застаецца дыяцэзіяльнай семінарыяй для кандыдатаў на святарства для Пінскай дыяцэзіі.

Такое функцыянаванне семінарый распачынаецца з 2018–2019 акадэмічнага года.

*Catholic.by*

# У Паставах адбылася сустрэча юнакоў Віцебскай дыяцэзіі

**З 12 па 14 чэрвеня ў парафіі святога Антонія Падуанскага ў Паставах адбылася сустрэча хлопцаў Віцебскай дыяцэзіі. Міністранты і кандыдаты да службы пры алтары прыехалі з розных мясцін нашай дыяцэзіі: з Глыбокага, Варапаева, Шаркаўшчыны, Улы, Параф'янава. Найбольшая група была з Паставаў. Тэмай спаткання стала распазнанне свайго паклікання.**

**■ кс. Аляксандр Грыцкевіч**

Пад кіраўніцтвам кс. Мікалая Ціхановіча і кс. Аляксандра Грыцкевіча юнакі разважалі над выбарам жыццёвай дарогі. Акцэнт быў зроблены на пакліканне, якое дае Бог кожнаму мужчыну. Як адзначыў кс. Мікалай, мэтай спаткання было дапамагчы сустрэць Бога ў сваім жыцці і адчуць Яго прысутнасць як Міласэрнага Айца, а не "наштампаваць" кандыдатаў у семінарыю. Таму разважанні і канферэнцыі былі накіраваныя на адкрыццё паклікання служыць Богу не толькі ў якасці святара, але і мужа, бацькі, грамадзяніна, прафесіянала.

13 чэрвеня, падчас святкавання парафіяльнага фэсту Пастаўскай парафіі хлопцы мелі магчымасць служыць пры алтары на святой Імшы, якую цэлебраваў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Біскуп Алег перасцярог браць прыклад з сапсаванага грахом свету і адзначыў важнасць фармацыі юнакоў згодна з вучэннем касцёла. Прыкладам такой фармацыі быў святы Антоній, які адказаў Богу на голас паклікання і ў служэнні Богу і людзям атрымаў вянец святасці.

На заканчэнне сустрэчы, калі ўсе ўдзельнікі дзяліліся ўражаннямі, было адзначана, што кожны атрымаў шмат карысной інфармацыі, атрымаў адказы на свае пытанні, меў магчымасць падзяліцца сваім сведчаннем веры. Таксама была добрая магчымасць паразмаўляць са святарамі ў нефармальных абставінах. Святары, у сваю чаргу, падзякавалі хлопцам за дысцыпліну і парадак, адзначылі іх жаданне паглыбляць сваю веру і выказалі надзею, што такія сустрэчы будуць працягвацца.







# Пантыфік і Святы Пасад не падтрымалі рашэнне нямецкага епіскапату

**Папа Францішак не падтрымаў кіруючыя ўказанні нямецкага епіскапату адносна прыняцця св. Камуніі некаталіцкімі сужэнцамі.**

Прэфект Кангрэгацыі Веравучэння арцыбіскуп Луіс Ладарыя напісаў старшыні Канферэнцыі Біскупаў Германіі кардыналу Рэйнхарду Марксу, што дакумент утрымлівае шэраг нявырашаных пытанняў значнай вагі. Ён агучыў выснову Папы, што дакумент яшчэ не гатовы да публікацыі.

Кіраўнік дыкастэрыі падкрэсліў, што пытанне адносна прыняцця некаталіцкімі сужэнцамі св. Камуніі датычыцца Касцёла ў цэлым і аказвае ўплыў на экуменічныя адносіны з іншымі Цэрквамі і супольнасцямі.

Іерархтаксамазвярнуўувагу на адпаведныя палажэнні Кодэкса Кананічнага Права. Канон 844 кажа, што сакрамант можа быць удзелены толькі каталіцкім вернікам. Кодэкс дапускае выключэнне ў тых выпадках, калі існуе небяспека смерці або прымушае іншая сур'ёзная неабходнасць, прызнаная дыяцэзіяльным біскупам або біскупскай канферэнцыяй.

Для вырашэння гэтых і іншых пытанняў для ўсяго Паўсюднага Касцёла ўпаўнаважаны адпаведныя органы Святога Пасаду, патлумачыў арцыбіскуп Ладарыя. Ён падкрэсліў, што гэтае пытанне датычыцца веры Касцёла і мае важнае значэнне для ўсёй каталіцкай супольнасці.

У той жа час Святы Пасад спадзяецца на далейшы ўнутраны дыялог паміж нямецкімі біскупамі, напісаў прэфект Кангрэгацыі Веравучэння. Арцыбіскуп завяршыў свой ліст заклікам да "духоўнай калегіяльнасці" ў Канферэнцыі Біскупаў Германіі.

Нямецкі епіскапат на сваёй нарадзе ў Інгальштаце ў лютым вырашыў, што ў асобных выпадках ёсць неабходнасць дазволіць сумесны ўдзел у св. Камуніі мужу і жонцы розных канфесій. Кардынал Маркс патлумачыў тады, што значная колькасць змешаных сужэнстваў ставіць святароў перад "тэрміновай душпастырскай задачай".

Неўзабаве пасля гэтага ліст па дадзеным пытанні ў Ватыкан накіравалі 7 з 25 мясцовых дыяцэзіяльных біскупаў. Падпісанты ліста з кардыналам Райнэрам Вёлькі на чале папрасілі Святы Пасад пра дапамогу ў вырашэнні праблемы. Паводле іх, епіскапат перавысіў свае паўнамоцтвы, а яго рашэнне нязгоднае з кананічным правам. На іх думку, у такіх фундаментальных пытаннях веры і еднасці Касцёла варта пазбягаць спецыяльных рашэнняў.

Паколькі Святы Пасад лічыць, што канфлікт павінен быць вырашаны ўнутры нямецкага епіскапату, яго старшыня, кардынал Маркс, нядаўна выказаў надзею, што на наступным пасяджэнні Канферэнцыі Біскупаў ён і яго браты "прыйдуць да пагаднення".

***Беларуская рэдакцыя Vatican News***



# "Скарб Хрыста – дзеці"

**1 чэрвеня ва ўсім свеце адзначаецца Дзень аховы дзяцей. А ад чаго сёння іх трэба ахоўваць? Думаецца, ад усяго злога і амаральнага, грэшнага і бездухоўнага.**

**Іна Сняжкова**




На жаль, усё пералічанае з'яўляеццасталым "спадарожнікам" сучаснага жыцця, перанасычанага інтэрнэтам, гаджэтамі і віртуальнымі зносінамі. І ў такой сітуацыі менавіта рэлігія, касцёл здольныя стаць той магутнай сцяной, той аб'яднальнай сілай, здольнай ахоўваць дзяцей ад шматлікага інфармацыйнага бруду. Пераканацца ў гэтым можна было 3 чэрвеня ў Лынтупах, калі ў мясцовай парафіі ладзілася свята для самых маленькіх жыхароў мястэчка і найбліжэйшых вёсак.

Дзень дзяцей тут адзначаўся ўжо пяты раз запар. Прайшло свята ля прыкасцельнага араторыя – будынка, які на працягу ўсяго навучальнага года быў для дзясяткаў хлопчыкаў і дзяўчынак другім домам, яшчэ адной школай жыцця. Тут дзейнічае шэраг гурткоў па інтарэсах, ладзяцца цікавыя сустрэчы. Духоўным настаўнікам і верным сябрам дзетак, галоўным арганізатарам мерапрыемстваў з'яўляецца сястра Люцына Вонс, якая ўжо амаль пяць гадоў служыць у Лынтупах. Усе яе ініцыятывы падтрымлівае і новы ксёндз-пробашч парафіі Аляксандр Баран.

На свяце ён першым звярнуўся да шматлікіх гасцей. Далей прысутных чакала насычаная праграма – з гульнямі, творчымі нумарамі, прыемнымі сюрпрызамі. На імправізаванай сцэне дзеці разам чыталі малітвы, спявалі, танцавалі, разам з вядоўцам – педагогам Лынтупскай школы, валанцёрам Святланай Фядотавай – удзельнічалі ў віктарынах, конкурсах і флэшмобах. Адным словам, заслужана адпачывалі пасля завяршэння чарговага навучальнага года.

Здзівілі ўсіх і бацькі, якія актыўна ўключыліся ў падрыхтоўку да свята. Прычым не толькі дапамагалі ў арганізацыйных момантах, але і па-майстэрску выступалі на сцэне: пераўвасобіліся ў герояў павучальных казак і нават... у Маці Тэрэзу з Калькуты (апякунку араторыя), якая раздавала невялікія падарункі самым актыўным на працягу года дзеткам. Напрыканцы ўсіх юных гасцей чакаў салодкі стол.

– Нельга падзяляць дзяцей на ўласных і суседскіх, – падкрэсліў ксёндз Аляксандр Баран. – Ёсць нашы дзеці. І задача дарослых – напоўніць іх сэрцы любоўю. Асабліва тых, хто трапіў у цяжкую сітуацыю, хто жыве ў праблемных сем'ях. А такіх, на жаль, нямала. Патрэбна прыкласці шмат намаганняў, каб навучыць іх жыць па законах Божых. І толькі аб'яднаўшыся, мы можам вырашыць гэту складаную задачу.

Сястра Люцына Вонс дапоўніла: "Гэта свята, як і наогул дзейнасць араторыя, не былі б магчымыя без вялікай падтрымкі неабыякавых да нашай справы людзей. Шматлікія задумы дапамагаюць увасобіць у жыццё бацькі, валанцёры, спонсары, у тым ліку і дыяцэзіяльны "Карытас". Напрыклад, цяпер на свяце абсалютна бясплатна выступілі клоуны з Пастаў. Летась найцікавейшыя ўрокі для дзетак праводзіла сямейная пара з Мінска – ганчар і мастачка. Такая сустрэча стала магчымай дзякуючы нашаму сябру і спонсару Іне Жызнеўскай, якая дапамагла і падчас правядзення Дня дзіцяці. Свет сапраўды не без добрых людзей са шчырымі сэрцамі. Дзякуй кожнаму за падтрымку, мы яе вельмі цэнім!"

Сястра таксама паведаміла, што свята дзяцей толькі распачало шэраг запланаваных на лета мерапрыемстваў. Адным з самых значных стане прыезд у Лынтупы гасцей з Польшчы. Як расказала сястра Люцына Вонс, там актыўна дзейнічае супольнасць "Усход", якая аб'ядноўвае людзей, ахвотных дапамагаць дзецям у Беларусі, Расіі, іншых краінах. Сярод іх – святары, клерыкі, маладыя людзі, якія праводзяць рэкалекцыі, рэлігійныя заняткі, разнастайныя інтэграцыйныя і актыўныя гульні. Іх прыезд у Лынтупы запланаваны на 16-22 ліпеня.

Для дзетак будзе арганізавана і паездка ў Мінск, адбудуцца новыя сустрэчы і знаёмствы, якія абавязкова падораць новыя эмоцыі і ўражанні. Не менш яркія, чым былі на свяце дзяцей.

– Нашу праграму мы сімвалічна завяршылі кранальным танцам бацькоў і іх дзяцей. І словамі песні падкрэслілі думку, што шчасце нельга купіць у магазіне, што яно нараджаецца менавіта ў сем'ях, у акружэнні татаў і мамаў, бабуль і дзядуль, якія атуляюць малых сваёй пяшчотай і любоўю, – адзначыла на завяршэнне сястра Люцына. – На жаль, не ўсе дарослыя ўсведамляюць, які гэта вялікі Божы дар – мацярынства, новае жыццё. І гэта свята як чарговы напамін пра тое, што на свеце няма нічога даражэйшага за дзетак, за будучыню. Нездарма ля сцэны мы павесілі словы бласлаўлёнага Эдмунда Баяноўскага: "Дзеці – скарб Хрыста". І берагчы іх трэба як самую вялікую каштоўнасць!"

# Католікам Севастопаля ўлада вярнула гістарычны будынак касцёла

**Доўгія гады тут размяшчаўся дзіцячы кінатэатр.**

У нядзелю, 3 чэрвеня, калі ў шматлікіх краінах католікі адзначаюць урачыстасць Божага Цела, у Севастопалі прайшла святочная цырымонія перадачы гістарычнага будынка каталіцкага храма дэлегату Пастырскай акругі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Крыме і Севастопалі біскупу Яцэку Пылю. Акрамя губернатара і біскупа, у цырымоніі прынялі ўдзел каталіцкі хор з Ялты і каля 500 вернікаў.

На днях пастанова пра перадачу касцёла мучаніка Клімента мясцовым католікам была прынята на пасяджэнні ўрада горада. Севастопальскія католікі нарэшце атрымалі ва ўласнасць свой гістарычны будынак, які з прыходам савецкай улады адабралі бальшавікі. Будынак быў перароблены пад кінатэатр, які працаваў тут доўгія гады. Севастопальская рыма-каталіцкая абшчына адноўленая ў 1993 годзе і з 1996 года праводзіла святыя Імшы ў прыстасаваным памяшканні, размешчаным непасрэдна каля будынка кінатэатра "Дружба".

Рыма-каталіцкі храм быў пабудаваны ў 1911 годзе на добраахвотныя ахвяраванні католікаў. Іх колькасць у Севастопалі на той момант была каля трох тысяч чалавек, большасць – вайскоўцы Чарнаморскага флоту.

Галоўны камандзір адмірал Міхаіл Лазараў прадставіў прашэнне імператару Мікалаю І аб пабудове касцёла за кошт казны. У 30-я гады XIX стагоддзя адвялі ўчастак зямлі і распачалі падрыхтоўку будаўнічых матэрыялаў, але ў перыяд Крымскай вайны малітоўны дом быў разбураны. Дазвол на ўзвядзенне храма і на збор добраахвотных ахвяраванняў быў атрыманы пасля прашэння да Імператара Мікалая II падчас яго знаходжання ў Севастопалі. Храм збудавалі ў 1911 годзе, а праз 25 гадоў, пасля расстрэлу святара, які ўзначальваў парафію, закрылі.

Нагадаем, нядаўна гістарычны будынак касцёла ў расійскім Краснаярску ўлады адмовіліся вярнуць католікам з тлумачэннем, што ён "не з'яўляецца маёмасцю рэлігійнага прызначэння".

*katolik.life*






# Скончалась старейшая монахиня в мире

В Японии 4 июня 2018 года умерла самая пожилая монахиня в мире. В конце июня текущего года ей должно было исполниться 111 лет. Испанка по национальности Виктория де ла Крус принадлежала к Конгрегации сестер адораторок Крови Христовой, сообщает KAI.

Виктория родилась 24 июня 1907 года в Малаге. В 1936 году приехала на миссию в Японию в качестве католической монахини. Ее путешествие в эту страну на океанском лайнере заняло два месяца. Служение протекало в Токио, но в годы Второй мировой войны община сестер была вынуждена перебраться в Иокогаму.

В Японии сестрой Викторией основан ряд школ, она была настоятельницей в нескольких монашеских общинах. Ее работа в среде женщин и молодежи продолжалась до последних дней жизни. А в 2017 г., в день своего 110-летия, она стала еще и "звездой Ютуба", исполнив известную песню Que viva España!

*sib-catholic.ru*

# Кто такой Антихрист?



**Кто такой Антихрист? Почему Католическая Церковь так мало о нем говорит, хотя он присутствует в Священном Писании? Будет ли это лидер какого-нибудь мирового движения? Когда придет его время и совпадает ли оно с глобализацией?**

Дать ответ на вопрос об Антихристе нелегко, поскольку вокруг этого персонажа существует множество интерпретаций. Отметим сразу, что Апокалипсис, где упоминается Антихрист, не следует толковать буквально. Речь идет об образном видении, и образы нуждаются в толковании.

Предлагаем две интерпретации Антихриста: первую – из Библейского словаря Маккензи и вторую – из комментария так называемой Иерусалимской Библии.

Согласно первой интерпретации, Антихрист – это олицетворение силы, враждебной Христу. Она проходит сквозь всю историю и всегда актуальна. Цитируем из словаря: "Образ Антихриста был истолкован разными способами, но существуют веские основания для того, чтобы подвергнуть сомнению одно время очень популярную версию, согласно которой Антихрист является реальным историческим эсхатологическим лицом. В Откровении святого Иоанна Богослова связь зверя с Римом слишком тесная, чтобы представлять что-то кроме императорской власти, преследовавшей христиан. Что касается числа 666, то не было предложено лучшего толкования, чем то, согласно которому оно представляет собой сумму числового значения букв, составляющих имя Цезаря Нерона (KSR NRWN), императора, правившего в период с 54 по 68 год: он был первым, кто осудил на смерть христиан.

В понимании апостола Павла "человек греха" уже находится в действии. Упоминания, содержащиеся в 1 и 2 Посланиях святого апостола Иоанна, судя по всему, также обращены к первым христианам, думавшим, что Антихрист – фигура эсхатологическая. Есть множество антихристов, и каждый, кто отвергает Иисуса, – антихрист. Скорее, антихрист – это олицетворение сил зла, которые иногда могут воплотиться в отдельной личности – как теперь, так и в будущем. Озлобленность антихриста охарактеризована чертами, которые могут навести на мысль о лукавстве дьявола: но речь идет, скорее, о поэтическом приеме, нежели об утверждении, будто антихрист одержим дьяволом и тем более будто он является олицетворением дьявола".

Согласно "Иерусалимской Библии", Антихрист – это фигура, которая явится в конце времен. Антихрист – это, по словам св. Павла, "противящийся и превозносящийся выше всего, называемого Богом или святынею, так что в храме Божием сядет он, как Бог, выдавая себя за Бога" (2 Фес 2,4).

Отступничество будет вызвано тем, кто представится великим противником Бога. Это нечестивец по определению, "человек греха", предназначенный для погибели, буквально – "сын погибели": "сын ночи, сын тьмы". Это противник Бога, описанный терминологией пророка Даниила, которую он применяет в отношении к Антиоху Епифану: "И будет поступать царь тот по своему произволу, и вознесется и возвеличится выше всякого божества, и о Боге богов станет говорить хульное и будет иметь успех, доколе не совершится гнев: ибо что предопределено, то исполнится". В христианской традиции, под влиянием Книги пророка Даниила, этот противник получит имя Антихриста. Он изображается как личность, которая явится в конце времен (в то время как сатана, орудием которого является Антихрист, действует уже сейчас "втайне", преследуя и обольщая верующих, вплоть до последнего великого испытания, которому положит конец возвращение Христа. "Ибо восстанут лжехристы и лжепророки, и дадут великие знамения и чудеса, чтобы прельстить, если возможно, и избранных" (Мф 24,24). Вот как описан Антихрист в Апокалипсисе св. Иоанна (13): "И стал я на песке морском, и увидел выходящего из моря зверя с семью головами и десятью рогами: на рогах его было десять диадим, а на головах его имена богохульные. Зверь, которого я видел, был подобен барсу; ноги у него – как у медведя, а пасть у него – как пасть у льва; и дал ему дракон силу свою и престол свой и великую власть. И видел я, что одна из голов его как бы смертельно была ранена, но эта смертельная рана исцелела. И дивилась вся земля, следя за зверем, и поклонились дракону, который дал власть зверю, и поклонились зверю, говоря: кто подобен зверю сему? И кто может сразиться с ним? И даны были ему уста, говорящие гордо и богохульно, и дана ему власть действовать сорок два месяца. И отверз он уста свои для хулы на Бога, чтобы хулить имя Его, и жилище Его, и живущих на небе. И дано было ему вести войну со святыми и победить их; и дана была ему власть над всяким коленом и народом, и языком и племенем. И поклонятся ему все живущие на земле, которых имена не написаны в книге жизни у Агнца, закланного от создания мира". Папа Бенедикт XVI упоминает об антихристе в своей энциклике "Spe salvi" (19), цитируя дословно немецкого философа Эммануила Канта: "Если когда-либо христианству суждено будет утратить достоинства любви [...], то антипатия и отвращение к нему станут господствующим образом мышления и антихрист [...] начнет свое (предположительно, основанное на страхе и своекорыстии) недолгое правление".

Кардинал Диас, Папский легат на праздновании 150-летия явлений Лурдской Богоматери, сказал следующие слова: "Пресвятая Дева Мария снизошла с Небес как мать, сильно волнующаяся за своих детей... Она явилась в гроте Массабьель, в то время представлявшем собой болото, у которого паслись свиньи. И именно там она пожелала создать святилище, указав, что благодать и милосердие Бога превосходят убогое болото человеческих грехов. Вблизи явлений Пресвятая Дева устроила источник обильной и чистой воды, которую паломники пьют и развозят по всему миру. Она означает желание нашей нежной Матери, чтобы ее любовь и спасение Ее Сына достигли краев земли. Наконец, из этого благословенного грота Дева Мария обратилась с настоятельным призывом к молитве и покаянию, чтобы испросить обращения бедных грешников. <...> После явлений в Лурде Богоматерь не прекратила проявлять во всем мире свое материнское беспокойство об участи человечества. В различных явлениях она просила о молитвах и покаянии за обращение грешников, поскольку предвидела духовный крах некоторых стран, страдания, которые должен был претерпеть Святейший Отец, общее ослабление христианской веры, испытания Церкви, а также приход Антихриста и его попытки заменить собой Бога в жизни людей: эти попытки, несмотря на их блестящий успех, все же обречены на крах".

Далее кардинал Диас сказал: "Здесь, в Лурде, как и повсюду в мире, Дева Мария плетет огромную сеть в своих духовных сыновьях и дочерях, чтобы подготовить мощную атаку против сил зла во всем мире, чтобы положить ему конец и подготовить окончательную победу ее Божественного Сына Иисуса Христа. Сегодня Дева Мария еще раз приглашает нас вступить в ее воинство для борьбы против сил зла. <...> Борьба между Богом и Его противником всегда жестока, и сегодня еще более жестока, чем во времена Бернадетты, 150 лет назад". По сей день "эта борьба оставляет после себя многочисленные жертвы".

Затем кардинал Диас повторил, вслед за Папой Войтылой, слова, произнесенные в 1976 году, незадолго до избрания Папой: "Сегодня мы видим самое большое сражение, какое когда-либо лицезрело человечество. Не думаю, что христианская община до конца это поняла. Мы стоим перед лицом окончательной борьбы между Церковью и Анти-Церковью, между Евангелием и анти-Евангелием".

Подводя итог всему сказанному, добавим, что толкования, данные словарем Маккензи и "Иерусалимской Библией", не противоречат друг другу. Антихрист всегда действовал на протяжении истории. Но в конце времен он появится также как некое лицо. Мы не знаем, наступил ли уже этот момент. Не исключено, что такие явления современного мира, как глобализация, могут быть использованы, например, на политическом уровне, как уловка для насаждения зла. Это зависит от людей и от их доброй воли.

*Радио Ватикана*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Валянціна Маісеева** *(Сталіца)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Ірэна Руткоўская** *(Радзюкі)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Каспяровіч Г. Т.** *(Мураваная Ашмянка)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Феліцыя Небышынец** *(Дубовы Лог)*, **Лоўкіс Л. В.** *(Навасёлкі)*, **Людміла Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Красілевіч Е. Г.** *(Казлоўшчына)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Эма Бугаева** *(Лынтупы)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Гэлена Мікша** *(Зыгмунцішкі)*, **Вінцэнт Навіцкі** *(Браслаў)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

# XIV Международная медицинская конференция "Проблемы врачебной этики в современном мире" прошла в Витебске

**7-8 июня в Витебске проходила XIV международная медицинская конференция "Проблемы врачебной этики в современном мире". Конференция проводится по инициативе Витебской епархии Римско-Католической церкви в Республике Беларусь и Витебского облисполкома.**

■ **Людмила Ермолова**, *врач УЗ "ВОКБ", текст;*
**Барбара Сипайло**, *фото*




В конференции принимали участие представители Беларуси, Ватикана, Италии, Нигерии, Польши, России, Украины, Франции, Шри-Ланки.

Впервые в формате видеоконференции к аудитории дипломатов, медиков, священнослужителей и учёных, собравшихся в Витебском облисполкоме, присоединились участники в двадцати одной студии в районах области.

В работе конференции приняли участие председатель Витебского областного Совета депутатов Владимир Терентьев, Посол Его Святейшества Папы Римского в Республике Беларусь Его Преосвященство Габор Пинтер, начальник управления здравоохранения Витебского облисполкома член Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь Юрий Деркач, начальник главного управления идеологической работы, культуры и по делам молодёжи Витебского облисполкома Геннадий Егоров.

Со словами приветствия к участникам конференции обратились председатель Витебского областного Совета депутатов Владимир Терентьев и Посол Его Святейшества Папы Римского в Республике Беларусь Его Преосвященство Габор Пинтер. В каждом обращении подчёркивалась важность вопросов биоэтики в современном мире и духовных аспектов их решения.



Программу конференции открыл доклад "Перспективы развития акушерско-гинекологической помощи в Витебской области", в котором главврач областного роддома Елена Леонович акцентировала внимание на вопросах демографической безопасности и успешном их решении на примере Витебской области. Далее слово для доклада было предоставлено гостю из Ватикана монсеньору Дариушу Герсу, священнику-официалу Департамента по служению интегральному развитию человека. Его сообщение было посвящено "Хартии работников здравоохранения" и работе нового Департамента по служению интегральному развитию человека.

Также на конференции прозвучали доклады профессора Александра Окорокова (Беларусь) "Оптимальная терапия артериальной гипертензии при беременности"; отца Петра Ашика SJ, профессора Collegium Bobolanum Папского богословского факультета в Варшаве (Польша) "Конец жизни – современные этические дилеммы"; монсеньора Жака Судо, профессора, члена Папской академии в защиту жизни, церковного советника Всемирной федерации католических медицинских ассоциаций (Франция) "Медицина, ориентированная на пациента против медицины, ориентированной на болезнь"; доцента, к.м.н. Волде Тесфайе (Беларусь) "Профессиональные, гуманные, нравственные и духовные аспекты врачебной этики в современном мире"; кандидата философских наук Валерия Гриня (Беларусь) "Зависимости – характерологические и этические аспекты" и сообщения представителей Нигерии и Шри-Ланки.

С заключительным словом к участникам конференции обратился ординарий Витебской епархии Римско-Католической церкви в Республике Беларусь Его Преосвященство Олег Буткевич.

Духовную опеку конференции уже второй год осуществляет священник Общества Иисуса о. Клеменс Верт SJ.

Участники конференции посетили УЗ "Витебский областной клинический роддом", УЗ "Витебская областная клиническая больница", где Нунций Его Святейшества Папы Его Преосвященство Габор Пинтер освятил комнату для молитвы и религиозных обрядов в целях духовной опеки пациентов, посетили католические и православные храмы Витебска, музеи и художественные выставки города над Двиной.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Гнеў. Як яго прыручыць?

**Сёння мы дабраліся да складанай эмоцыі, сацыяльна забароненай, якую цяжка перажываць, але без сумневу важнай (памятаем жа, што кожная эмоцыя выконвае сваю значную функцыю?). Гаворка пра гнеў.**

**Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*

Гнеў – другая базавая эмоцыя, яна з'яўляецца вельмі хутка пасля нараджэння, ужо цягам некалькіх тыдняў ці месяца.

**Гнеў** – рэакцыя на перашкоды, энергія для абароны парушэння межаў. Гэту эмоцыю незаслужана ганьбяць, падаўляюць, часта саромяць за яе, сварацца. У дзіцячых казках ды байках не абыходзіцца без таго, каб падзяліць свет на чорнае і белае, на дабро і зло. Мы прызвычаіліся праводзіць паралелі між адмоўнымі персанажамі і пачуццямі раздражнення, незадаволенасці, злосці, ярасці, якія самі па сабе з'яўляюцца рознымі ступенямі ўсё той жа эмоцыі – гневу. Але давайце паспрабуем уявіць свет, дзе ніхто ніколі не злуецца, а значыцца, не мае энергіі для пераадолення перашкодаў, дасягнення мэтаў, для творчасці. У такім свеце ўсе будуць усміхацца адно аднаму і заўжды пагаджацца адно з адным.

Заставацца на працы да ночы праз дзень? Добра! Вядома! Нягледзячы на тое, што ад гэтага пакутуе сям'я. Пайсці вучыцца па спецыяльнасці, якая ніколі не падабалася? Так, так! Згаджуся дзеля бацькоў, хоць ніколі не палюблю сваю прафесію. Папрасіць, каб перасталі наступаць на нагу ў транспарце? Ды не! На гэта ж таксама павінна быць энергія супрацьстаяння. Прыклады жыццёвыя, праўда? Маленькае дзіця можа злавацца на маці, калі тая надоўга пакідае яго без сваёй прысутнасці. Яго злосць дапамагае яму выжыць і застацца здаровым, бо да пэўнага ўзросту без маці гэта проста немагчыма. Бясспрэчна, гнеў патрэбны людзям для рэгуляцыі стасункаў, для сігналізавання, што нешта не так, і для паляпшэння сітуацыі.

Гнеў становіцца сапраўднай праблемай, калі з'яўляецца моцнай рэакцыяй на нязначныя падзеі, калі можа нанесці фізічную ці псіхалагічную шкоду іншаму.

Зацiснутая злосць (калі за эмоцыю каралі, сварыліся, саромелі, не дазвалялі выказваць) мае вялікую верагоднасць выявіцца праз цела, назавём гэту з'яву псіхасаматыкай. Гэта азначае, што нашае цела можа цалкам рэальна захварэць, калі псіхіка не знойдзе іншага спосабу паказаць, што адбываецца з асобай насамрэч.



Думаць, што ад гневу можна пазбавіцца, што існуюць людзі, якія ніколі не адчуваюць незадаволенасці, патрэбы сказаць пра свае хваляванні, нязручнасці, недапушчальныя дзеянні ў адносінах да сябе, – гэта вялікі самападман.

Але сапраўды актуальнымі застаюцца пытанні: як тады ставіцца да сваіх рэакцый, як паклапаціцца пра сябе і не параніць іншых, захаваць добрыя і камфортныя стасункі? Тут адказы могуць быць рознымі, у залежнасці ад кожнага чалавека, ад кожнай індывідуальнай сітуацыі. Варта ведаць, што злосць становіцца моцнай ці калі нам нанеслі адчувальную шкоду, ці калі мы панеслі значныя страты (злодзеі скралі ўсе нашыя ашчаджэнні, кіраўнік не плоціць абяцаны заробак, сябра здрадзіў і г.д.), ці калі эмоцыі проста назапасіліся з часам. Уявіце сабе ўнутраную шклянку, куды па кроплі набіраюцца розныя пачуцці цягам усяго нашага жыцця, пачуцці капаюць – шклянка напаўняецца, выйсця эмоцыям няма, месца таксама становіцца з кожнай кропляй менш і менш. Што ў выніку адбудзецца? Наша ёмістасць калісьці перапоўніцца, і ўсё назапашанае вялікім струменем бескантрольна пырсне навокал, зальё ўсіх і ўсё. І тут ужо зусім няважна, што стане той апошняй кропляй: значная падзея ці не, важна будзе толькі тое, што ўсё перапоўніцца, эмоцыі перальюцца, карысныя рэакцыі стануць небяспекай.

Якое ж выйсце? Дастаткова простае ў тэорыі і складанае на практыцы: не назапашваць эмоцыі, выяўляць іх, прагаворваць у той момант, калі яны толькі з'яўляюцца ў кантакце з іншым. Для гэтага трэба быць вельмі адчувальным да свайго стану. Задаваць сабе пытанні: "А што са мной зараз адбываецца? Што я адчуваю? Мне зараз добра, камфортна? Калі я злуюся, то на што канкрэтна? Крыўда на мужа, які так не да месца жартуе зараз? Ці я стамілася на працы і ўвесь мой гнеў выліўся на калегу, а мужу ўжо дастаецца па звычцы?"

Гнеў мае свае ўзроўні. Ён можа быць зусім маленькім, мы проста адчуваем невялікую незадаволенасць, можам адчуваць раздражненне, а можам быць у сапраўднай раз'юшанасці, калі сутыкаемся з бездапаможнасцю ці несправядлівасцю. Важна заўважаць свой гнеў ужо на стадыі раздражнення, ідэнтыфікаваць яго як злосць, зразумець, на каго і ў сувязі з чым ён узнік, і ў залежнасці ад сітуацыі падабраць спосаб і форму, як гэтую эмоцыю праявіць, каб не параніць іншых, але і сябе не разбурыць. Тады ў нас з'явяцца ўсе шанцы камфортна жыць са сваімі пачуццямі і нашымі бліжнімі.

Калі ў вас ёсць пытанні па гэтай тэме, пішыце ў рэдакцыю, і мы паспрабуем разабрацца з імі ў наступным нумары.

Дзякуй за ўвагу!

# Проводим летние каникулы с пользой

**Каникулы – это время, которое с нетерпением ждут как взрослые, так и дети. Первые – потому что избавятся от обязанности проверять уроки и собирать ребенка в школу. А для детей это время отдыха и приключений. Ведь кого-то ждет поездка в лагерь или отдых на море, а кто-то навестит бабушек и дедушек в деревне.**

**Марина Ткач**, *магистр психологии*

Но не у всех есть такое разнообразие вариантов, как и где провести долгожданные каникулы. Многие дети останутся дома и будут предоставлены сами себе. Вот в этом и кроется "опасность", которую можно обозначить как "дети и гаджеты".

Не будет преувеличением тот факт, что всевозможные смартфоны, планшеты, компьютеры и даже "умные" телевизоры прочно вошли не только в жизнь взрослых, но и детей. К сожалению, очень многие родители не считают нужным достаточно жестко контролировать время, которое их дети проводят за гаджетами, считая при этом, что ребенок – своеобразная копия взрослого с такими же способностями, психикой и формами мышления. Но это совсем не так. Бесконтрольное использование электронных устройств может иметь вполне реальные негативные последствия.

На нервную систему и неокрепшую психику ребенка. Ребенок не может справиться с переизбытком информации, получаемой с помощью современных технических устройств. Дети становятся эмоционально неуравновешенными, может появляться ощущение плохого самочувствия, подверженность стрессам, гипервозбудимость, различные страхи, нередко агрессия, синдром дефицита внимания, нарушения сна.

На зрение. Перенапрягается и утомляется внутренняя оболочка глаза ребенка, что может вызывать покраснения, зуд, провоцировать общую усталость и привести к ухудшению зрения.

На развитие детской речи. Она, как правило, замедляется, так как ребенок меньше находится в ситуациях, требующих "живого" общения. Таким образом, его речевой запас не пополняется, не происходит постоянная "тренировка" коммуникативных навыков. В последствии может возникать страх перед ситуацией общения как со сверстниками, так и со взрослыми. Подчеркну, что речь – это не только средство общения, но и средство мышления, воображения, овладения своим поведением; это средство осознания своих переживаний, своего поведения и осознания себя в целом.

На физическое развитие. Дети должны быть активными. Весь их организм подготовлен к этой высокой активности и подвижности. Поэтому просиживание с гаджетами в руках приводит к пассивному образу жизни, может возникнуть проблема избыточного веса, ухудшается осанка, развивается искривление позвоночника (особенно страдает шейный отдел).

Теряется интерес к любой другой деятельности, ведь виртуальный мир так ярок и увлекателен. И здесь может развиться зависимость от гаджетов, как физическая, так и эмоциональная.

Но это не значит, что нужно запретить детям пользоваться гаджетами, ведь проблема заключается не в обладании вещью, а в том, как она используется. Что можно предпринять, чтобы избежать данных последствий? Как говорится, "всё гениальное просто, и всё простое гениально".

Начните с себя. Проводите как можно меньше времени, уткнувшись в телефоны и планшеты, отучите себя включать телевизор "как фон". Активными, подвижными, самостоятельными становятся дети, которые с самого рождения видят взрослых, имеющих увлечения, хобби и интересы, не связанные с гаджетами.

Установите четкие временные рамки пользования электронными устройствами. К примеру, для дошкольников (4-6 лет) границы могут составлять до 30 мин. за день. В возрасте от 6 до 10 лет можно проводить за монитором до одного часа в день. Подросткам (11-17 лет) рекомендовано ограничиться двумя-тремя часами.

Найдите альтернативные способы занять вашего ребенка. Это может быть чтение, игры, рисование, прогулка или же совместное времяпрепровождение. Можно на время каникул (конечно, с обоюдного согласия) сделать ребенка ответственным за какой-то вид деятельности. Ребенок почувствует, что вы ему доверяете, считаете его взрослым и ответственным. От этого самооценка вашего чада только улучшится. Но помните, что каникулы – это все-таки время отдыха. Поэтому не переусердствуйте!

Важно заботиться не только о физическом и психическом состоянии детей, но и помнить про духовную составляющую личности ребенка.

Но самое главное – найти время и силы для собственного ребенка. Не подменяйте самих себя гаджетами. Знайте, что дети нуждаются в вашем внимании. Гаджеты будут всегда, а ваши дети рано или поздно вырастут. Поэтому цените эти яркие моменты их детства!



# Працэсія Божага Цела ў Віцебску

**2 чэрвеня ў Віцебску ад касцёла Езуса Міласэрнага да касцёла Святога Духа прайшла ўрачыстая працэсія ў гонар Найсвяцейшых Цела і Крыві Хрыста, у якой прынялі ўдзел вернікі не толькі горада, але і ўсёй дыяцэзіі. Былі дзеці ў белым убранні – тыя, што ў гэтым годзе прынялі Першую Камунію альбо рыхтуюцца да гэтай падзеі.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*



Перад пачаткам працэсіі адбылася святая Імша ў катэдральным касцёле, якую ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Ардынарый прывітаў усіх прысутных, асабліва падзякаваў тым, хто прыехаў здалёк, каб падзяліцца сведчаннем сваёй веры. “Разам з усёй дыяцэзіяй мы адзначаем урачыстасць сёння, у суботні дзень, каб мець магчымасць прайсці вуліцамі Віцебска – сталіцы нашай вобласці, каб Езус Хрыстус, прысутны сярод тых, хто ў яго верыць, прысутны ў знаках хлеба і віна мог блаславіць горад і дыяцэзію, але таксама і тых, хто чакае, шукае і патрабуе Яго міласэрнасці, любові і прабачэння”.

“Калісьці за Езусам ішлі натоўпы, бо бачылі знакі, якія Ён рабіў і тым самым абуджаў веру ў людскіх сэрцах. Сёння Езус дзякуючы нашай веры выходзіць на вуліцу, каб быць сярод тых, хто Яго яшчэ не ведае, хто загубіўся ці проста абыякавы да духоўных рэчаў ці нават варожа да іх настаўлены. Дзякуючы нашай веры Езус сёння сярод жыхароў нашых гарадоў і вёсак, хоць і далёка не ўсе гэта ўспрымаюць і разумеюць. Для шматлікіх мінакоў наша працэсія будзе проста прыгожым дзействам, але дзякуючы ёй Езус дакранецца да іх сэрцаў, блаславіць і прабе на іх рэкі Сваёй ласкі,” – падкрэсліў у гаміліі іерарх.

Біскуп Алег таксама нагадаў пра свядомасць удзелу ў св. Імшы: “Гэты горад атрымае сёння веру і шматлікія ласкі дзякуючы вам, хто пойдзе разам з Езусам. І так ёсць заўсёды, калі толькі свядома ўдзельнічаем у Эўхарыстыі. Прымаючы Хрыста ў сваё сэрца, мы нясём Яго да людзей, становімся манстранцыяй, з якой Езус бласлаўляе тых, каго сустракаем. Пра гэта казаў калісьці і святы Папа Ян Павел ІІ, распачынаючы год прысвечаны Эўхарыстыі: “Адкрывайце наноў дар Эўхарыстыі як святло і моц для вашага штодзённага жыцця ў свеце, у выкананні вашых абавязкаў і ў розных сітуацыях”. Варта пра гэта памятаць”.

Напрыканцы Імшы біскуп Алег асабліва адзначыў прысутнасць першакамунійных дзяцей, павіншаваў з вялікай і значнай падзеяй у іх жыцці і пажадаў, каб Езус, прынятым аднойчы ў сэрца, уже назаўсёды застаўся там, як у сваім найбольш утульным доме.

Словы віншавання і падзякі за паслугу 20-годдзя святарства былі скіраваны айцу Міхалу Ермашкевічу, які 30 мая адзначаў юбілей святарскага пасвячэння.

Людская плынь ствapала незвычайную прыгажосць і паказвала веліч веры. Працэсія пад акампанемент музычных духавых інструментаў і спеву хору у суправаджэнні машын і матацыкла ДАІ прыцягвала ўвагу віцяблян. Некаторыя спыняліся, назіраючы і здымаючы ўсё на тэлефон. Адна жанчына спыніла мяне і спытала, што за свята. Атрымаўшы адказ, яна прыемна здзівілася прысутнасцю дзетак “у белым”, прыгажосцю працэсіі, колькасцю людзей і прамовіла, што хацела пайсці б далей разам, але чакалі свае справы, куды жанчына і паспяшалася.

Падчас шэсця вернікі зрабілі чатыры прыпынкі каля алтароў. Першы і апошні размяшчаліся каля храмаў, а другі і трэці сярод шматпавярховікаў. У гэтым годзе алтары адмыслова падрыхтавалі вернікі віцебскіх парафій: Святой Барбары, Езуса Міласэрнага, Святога Духа, а таксама Грэкакаталіцкай царквы.

# Візітацыя біскупа ў Мосарскую парафію

**Візіт высокага госця адбыўся ў нядзелю, 3 чэрвеня.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

У першай палове дня іерарх наведаў капліцы ў Савутках і Казлоўшчыне, дзе сустрэўся з вернікамі і правеў набажэнствы.

Пасля абеда ардынарый прыбыў у Мосар, дзе каля храма яго ўжо чакалі вернікі. Каб прывітаць свайго пастыра, усе вернікі выйшлі з касцёла. Закрыстыянін Станіслаў Бука коратка распавёў біскупу гісторыю Мосарскай парафіі. Пасля гэтага пастыру ўручылі хлебны каравай, кветкі і падарункі. Біскуп акрапіў вернікаў святой вадой і ўрачыста ўвайшоў у храм.

Высокага госця прывітаў пробашч парафіі ў Мосары ксёндз Марат Казлоўскі.

Біскуп у сваім прывітальным слове адзначыў, што яму прыемна наведваць Мосарскую парафію. Ён яе назваў заслужанай, бо тут працаваў ксёндз-прэлат Юозас Булька, які стварыў тут райскі куточак. Але не толькі знешнюю прыгажосць можна паставіць у заслугу Мосару. Тут жылі і жывуць шчырыя католікі, гэта парафія дала Касцёлу сямнаццаць святароў. З мясцовай парафіі паходзіць і Генеральны вікарый дыяцэзіі ксёндз Францішак Кісель.

У сваім слове да вернікаў іерарх найперш звярнуў увагу на словы апостала Паўла з сённяшняга чытання: “Мы маем скарб у гліняных пасудзінах, каб веліч сілы была Божая, а не ад нас. Усяляк уціскаюць нас, але мы не прыгнечаныя. Мы ў разгубленасці, але не паддаёмся роспачы. Нас пераследуюць, але мы не пакінутыя. Знішчаюць нас, але мы не гінем”.

Павел напачатку пераследаваў Касцёл, а пасля стаў прапаведнікам, адным са слупоў, на якіх трымаецца вера. Гэта сталася дзякуючы дзеянню Духа Святога. Божы Провід трымае таксама і Касцёл у нашай краіне. Ён быў колькі разоў нішчаны, але і надалей працягвае выконваць сваю функцыю.

Звярнуў ардынарый увагу і на важнасць прабачэння ў нашым жыцці. Важна прыняць іншага чалавека такім, як ён ёсць, прызнаць, што ён не такі, як я. Гэта і ёсць любоў. Асабліва важна гэта ў сямейным жыцці. “Ніводзін мужчына псіхалагічна не падыходзіць ніводнай жанчыне, – адзначыў біскуп, – але праўда ў тым, што калі прымаць сужэнца такім, як ён ёсць, даравацьадно аднаму, жыць з Богам, то тады ніхто не здольны разбурыць такую сям'ю”.

Таксама іерарх перасцярог вернікаў, каб не лічылі Бога своеасаблівай палачкай-выручалачкай. Бо з такім падыходам мы хутка расчаруемся ў Пану. У заходніх краінах чалавек ужо мае ўсё або амаль усё. І тады шмат каму Бог становіцца непатрэбны. А Ён нам патрэбны ў першую чаргу як крыніца любові, як дарога да збаўлення.

Біскуп заклікаў людзей святкаваць нядзелю, дзень, калі Езус Хрыстус уваскрос. Бо нядзельная праца звычайна не прыносіць чалавеку карысці. Праўда, адзначыў іерарх, гэта не трэба разумець літаральна. Калі праца робіцца для дабра людзей, для дапамогі бліжняму, то за гэта Бог не карае чалавека.

Звярнуў увагу ардынарый і на розныя забабоны і прымхі, у якія людзі схільныя верыць і ў наш час. Ён перасцярог вернікаў ад кантактаў з рознымі знахарамі і варажбітамі. Заўсёды трэба памятаць, адкуль гэтыя людзі маюць такую ўладу.

“Таму няхай сённяшняя сустрэча з Езусам Хрыстом у Эўхарыстыі адновіць наш давер да Бога, – сказаў біскуп Алег на заканчэнне гаміліі. – Глядзіце на сваё жыццё праз прызму веры!”

Напрыканцы Імшы ксёндз Марат падзякаваў іерарху за яго візіт і за тыя словы, што ён прамовіў да вернікаў. Бо, па словах святара, вуснамі біскупа прамаўляе сам Езус Хрыстус.

Ардынарый падзякаваў вернікам за цёплы прыём і пажадаў ім ісці простай дарогай да збаўлення.

Пасля таго, як біскуп удзяліў сваё пастырскае бласлаўленне, адбыліся набажэнствы да Сэрца Езуса і працэсія вакол касцёла.

Закончылася ўрачыстасць спевам гімна “Цябе, Бога, праслаўляем”. А біскуп сустрэўся яшчэ з прадстаўнікамі парафіяльнай рады, дзе былі абмеркаваныя надзённыя пытанні жыцця парафіі.



# Новы касцёл асвечаны ў Оршы



**Парафія Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі ў Оршы 9 чэрвеня адзначыла вялікую ўрачыстасць – асвячэнне новага касцёла. Гэты абрад здзейснілі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, і біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Парафія Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі была заснаваная ў 2007 годзе біскупам Уладзіславам Блінам. Спачатку супольнасць пачала збірацца ў вызначаныя гадзіны ў нядзелю ў касцёле Святога Юзафа. Было ўсяго некалькі чалавек, і на працягу тыдня першыя вернікі новай парафіі маліліся пад елкай. Гэта гістарычнае месца для парафіян. Незалежна ад надвор'я, яны былі тут кожны дзень з ружанцамі ў руках. Спачатку будавалі кожную нядзелю палявы алтар, дзе цэлебравалася Эўхарыстыя. Калі набліжаліся "Дажынкі", гораду надавалі прыгожы выгляд з нагоды прыезду ганаровых гасцей, ксяндзу Здзіславу Петрашэўскаму ўдалося паставіць гараж. На працягу многіх гадоў змяняліся святары, а людзі чакалі будынка касцёла.

У 2009 годзе ў парафію Беззаганнага Сэрца Марыі быў накіраваны малады святар кс. Валеры Орсік. Ён адразу працягнуў працу мінулых пробашчаў у справе пабудовы "святыні" ў сэрцах вернікаў. А праз тры гады свайго служэння ў парафіі ксёндз распачынае ўзвядзенне новага цаглянага будынка касцёла.

Падмурак закладзены, сцены ўжо напалову ўзведзены, і 28 чэрвеня 2014 года біскуп Алег Буткевіч здзяйсняе асвячэнне вуглавога каменя і закладку капсулы. А ўжо праз чатыры гады адбываецца асвячэнне новай святыні.

На ўрачыстасць у Оршу з'ехаліся святары і вернікі з розных парафій амаль усіх дыяцэзій Беларусі. Цікава, што сам касцёл ад раніцы быў зачынены. Урачыстасць распачалася працэсіяй літургічнай службы і святароў ад капліцы дановай святыні. Прадстаўнікі парафіі ўручылі арцыбіскупу Тадэвушу і біскупу Алегу сімвалічны ключ, пасля чаго іерархі, тройчы стукнуўшы ім у дзверы, запрасілі сабраных увайсці ў Божы дом.

Асвячэнне касцёла пачалося малітвай і акрапленнем сцен святой вадой, якое здзейсніў мітрапаліт. Прамаўляючы Божае слова, арцыбіскуп Тадэвуш на самым пачатку выказаў шчырую падзяку ўсім тым, хто прычыніўся да пабудовы касцёла: біскупу на пенсіі Уладзіславу Бліну, які своечасова прачытаў знакі часу і заснаваў у горадзе другую парафію, Віцебскаму біскупу Алегу Буткевічу, пробашчу кс. Валерыю Орсіку, на чые плечы лёг увесь цяжар будаўнічых прац, дзяржаўным уладам, праектным арганізацыям, спонсарам, будаўнікам і вернікам.

Пасля казання хор з Магілёва, які ўпрыгожваў сваім спевам урачыстую Літургію, заспяваў Літанію да ўсіх святых. Абрад асвячэння працягнуўся памазаннем алтара і сцен святым алеем. Арцыбіскуп Тадэвуш і біскуп Алег намасцілі алтар і сцены, пазначаючы іх знакам крыжа. Намашчэнне азначае прыналежнасць Богу. Касцёл Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі ў Оршы з'яўляецца святым будынкам і належыць ужо толькі Госпаду.

Затым было запаленае кадзіла і духмяны водар напоўніў касцёл. Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі прайшоў праз святыню, акаджваючы яе і прысутных людзей. Дым кадзіла сімвалізуе малітвы вернікаў, якія будуць узносіцца ў новаасвечаным храме.

Пасля акаджвання арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч перадаў запаленую свечку пробашчу парафіі кс. Валерыю Орсіку, каб запаліць свечкі на сценах касцёла. Святло запалілі ва ўсім касцёле.



На заканчэнне малітоўнай часткі ўрачыстасці словы ўдзячнасці за новую святыню, за яе асвячэнне і супольную малітву прадстаўнікі парафіі, моладзь і дзеці скіравалі іерархам, святарам, якія распачыналі гэтую справу, якія падтрымлівалі сваімі ахвяраваннямі і малітвамі, прадстаўнікам мясцовай улады, ахвярадаўцам, парафіянам і кожнаму, хто прыехаў раздзяліць радасць з аршанцамі ў гэты дзень. Дзякуючы працавітасці, салідарнасці, падтрымцы ўсіх гэтых людзей будаўніцтва другога касцёла ў Оршы стала магчымым.

Ксёндз Валерый уручыў падзякі прысутным біскупам і святарам тых парафій, вернікі якіх дапамаглі сваімі "цаглінкамі" – ахвяраваннямі ў пабудове новай святыні.

Затым мітрапаліт зачытаў Дэкрэт асвячэння парафіяльнага касцёла ў гонар Беззаганнага Сэрца НПМ у Оршы, які перад усімі прысутнымі падпісалі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, канцлер Віцебскай дыяцэзіі кс. Віктар Місевіч і пробашч кс. Валерый Орсік.

Працягвалася святкаванне на прыкасцельным пляцы разам з музыкамі з гурта "Recha".

## Ксёндз Валерый Орсік прызначаны Ганаровым канонікам Віцебскай катэдральнай капітулы

9 чэрвеня падчас урачыстасці асвячэння новага касцёла ў Оршы канцлер Віцебскай дыяцэзіі кс. Віктар Місевіч зачытаў Дэкрэт біскупа Віцебскага Алега Буткевіча аб прызначэнні кс. Валерыя Орсіка Ганаровым канонікам Віцебскай катэдральнай капітулы.

Біскуп Алег адзначыў кс. Валерыя гэтым тытулам, улічваючы яго заслугі перад Касцёлам у Віцебскай дыяцэзіі, а найперш асабліва руплівую і адданую працу пры будаўніцтве касцёла Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі ў Оршы.

Носячы тытул Ганаровага каноніка Віцебскай катэдральнай капітулы, святар атрымлівае ўсе правы і абавязкі, прапісаныя ў яе Статутах. Ён павінен кіравацца гэтымі Статутамі, нормамі Кананічнага Права Каталіцкага Касцёла, а таксама распараджэннямі Біскупа Віцебскага.

*Марына Сінкевіч*







# Дапамога ад Caritas

Ксёндз Аляксандр Півавар, які з'яўляецца пробашчам парафій у Бешанковічах, Уле і Мікалаеве, развёз прадуктовую гуманітарную дапамогу шматдзетным сем'ям у вёсках Кардон і Андрэева.

Сродкі на гэту дапамогу выдзеліла Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі.

Ксёндз Аляксандр абслугоўвае самую вялікую тэрыторыю ў Віцебскай дыяцэзіі, ён стараецца падтрымаць шматдзетныя сем'і, а таксама інвалідаў у сваіх парафіях.

Вернікі былі вельмі ўдзячныя свайму пробашчу і пачаставалі яго яйкамі і рыбай.

# Беларусь у "святых" гербах: Геранёны

**Сёння Геранёны не выклікаюць нашай надзвычайнай увагі – ну так, яшчэ адзін аграгарадок на Гродзеншчыне. Не выклікаюць захаплення і рэшткі колішняга замка, амаль што схаваныя ад вачэй жыхароў і турыстаў у кустоўі. Але лунае тут дух старажытнага мястэчка, якое мае сваю цікавую гісторыю і, безумоўна, не менш цікавы герб.**

**Айцец Андрэй Сідаровіч MIC**, *Росіца*



Наданне Магдэбургскага права Геранёнам датуецца 1792 г. Хаця паводле меркаванняў некаторых даследчыкаў, і права, і герб Геранёны атрымалі ўжо ў 1630 годзе. З гэтай мясцовасцю звязана адна вельмі прыгожая і рамантычная гісторыя. У 1543 годзе вялікі князь Жыгімонт Аўгуст гасціў у Геранёнах. Апрача іншых спраў, яму трэба было вырашыць, хто будзе ўладальнікам гэтай мясцовасці пасля смерці апошняга Гаштольда, які не пакінуў нашчадкаў. Менавіта там, у Геранёнскім замку, Жыгімонт захапіўся гаспадыняй Барбарай Радзівіл. Сказаць, што гэта была прыгожая жанчына, – гэта значыць, нічога не сказаць. Нават тагачасныя партрэты здолелі з фатаграфічнай дакладнасцю перадаць незвычайнае харавство Барбары. Так успыхнуў раман, які сучаснікі Аўгуста і Барбары назвалі "каханнем стагоддзя".

Усё б нічога, але Аўгуст быў чалавекам жанатым, і толькі пасля смерці вельмі хваравітай жонкі змог афіцыйна пашлюбавацца з Барбарай. Аднак гэтае каханне вельмі не падабалася яго маці-каралеве, сумнавядомай італьянцы Боне Сфорцы. Пасля таго, як на вачах Барбара схуднела і памерла, многія пачалі казаць пра атручанне. Хаця даследчыкі, аналізуючы апісанне смерці, робяць выснову, што гэта проста магло быць анкалагічнае захворванне. Аўгуст так перажываў страту, што ўжо ніколі больш не жаніўся.

Сэрца, прабітае мячом на гербе Геранён, – гэта нібыта рэха таго незвычайнага кахання. Аднак здаецца, што радавод герба рэлігійны. Кожнаму каталіку, які носіць на шыі медалік у гонар Маці Божай, герб нагадвае выяву менавіта з медаліка. Там часта два сэрцы – Езуса і Марыі. Але на пазнейшых версіях сэрца было адно – Марыі, менавіта прабітае мячом.



Меч – гэта рэха евангельскага прароцтва Сімяона, якое казала, што душу Марыі праб'е меч пакуты. Таксама палымнеючы агонь, які выходзіць з Сэрца, амаль што заўсёды бачны на абразах Езуса і Марыі, і амаль што ніколі не сустракаецца ў свецкай сімволіцы.



# Рыба, мёд, мяса: тэст пра ежу

**"Каталіцкі Веснік" прапануе Вам прайсці новы тэст і праверыць свае веды.**

**1** Няўстрыманасць у ежы і піцці. Што гэта такое?



**А.** Адна з дзесяці Божых запаведзяў;
**Б.** Адзін з сямі галоўных грахоў;
**В.** Адзін з пяці касцельных наказаў.

**2** Хто з пералічаных людзей еў саранчу і мёд дзікіх пчол?



**А.** Ян Хрысціцель;
**Б.** Апостал Пётр;
**В.** Ной.

**3** Калі Касцёл заклікае ўстрымацца ад мясных страў?



**А.** Ва ўсе пятніцы году, калі на іх не прыпадае касцельная ўрачыстасць;
**Б.** Ва ўсе пятніцы году, калі на іх не прыпадае касцельная ўрачыстасць, а таксама ў Папяльцовую сераду і Вялікую Пятніцу;
**В.** У Вялікую Пятніцу і Папяльцовую сераду.

**4** Чым карміў Бог габрэяў у пустыні?



**А.** Хлебам і вадой;
**Б.** Рыбай і хлебам;
**В.** Маннай нябеснай.

**5** Ці праўда, што Езус пасля Свайго ўваскрасення еў печаную рыбу?



**А.** Праўда;
**Б.** Няпраўда.

**6** З чаго выпякаецца аплатка?



**А.** З мукі і вады;
**Б.** З мукі, вады і дражджэй;
**В.** З яек і мукі.

**7** Колькі спачатку было хлябоў, што памножыў Езус, каб накарміць 5000 чалавек?



**А.** 5;
**Б.** 3;
**В.** 50.

**8** Прыгадайце гісторыю пра блуднага сына.
Каго загадаў зарэзаць бацька, каб есці і весяліцца з той прычыны, што блудны сын вярнуўся дамоў?



**А.** Адкормленага казла;
**Б.** Адкормленага барана;
**В.** Адкормленае цяля.

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

**Правільныя адказы на старонцы 12**

# Ці збіраецеся Вы сёлета пайсці ў пілігрымку?

- Так, збіраюся пайсці – 137 адказаў;
- вельмі хачу, але не атрымаецца – 75 адказаў;
- не пайду – 31 адказ;
- пакуль не ведаю – 24 адказы;
- іншы адказ у каментарах – 7 варыянтаў.

**Усяго апытаных – 274 чалавекі.**



# Каляндар на ліпень



Сямейная пілігрымка – 2016 у Будславе

**2 ліпеня – урачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай.**

У апошнія гады культ Маці Божай Будслаўскай, Якую называюць Апякункай Беларусі, распаўсюдзіўся па ўсёй нашай краіне. Цэнтр святкавання – невялікая вёска на поўначы Мінскай вобласці, назва якой – Будслаў – вядомая сёння ў Беларусі і за яе межамі. Там знаходзіцца Нацыянальны санктуарый Маці Божай. Будслаўскі касцёл, адзін з самых прыгожых і вялікіх на нашай зямлі, быў пабудаваны ў XVIII стагоддзі і з’яўляецца малой базылікай. Кожны год у Будслаў ідуць і едуць тысячы пілігрымаў, каб ушанаваць Найсвяцейшую Панну Марыю, папрасіць праз Яе заступніцтва, асаблівых ласкаў Божых і прыняць удзел ва ўрачыстым Будслаўскім фэсце.

**3 ліпеня – успамін святога Тамаша, апостала.**

Святы Тамаш, празваны Дыдым (Блізня), да паклікання ў супольнасць апосталаў быў рыбаком у Галілеі. Калі Езус у Дзень Уваскрасення з’явіўся апосталам, Тамаша сярод іх не было. Ён спачатку не паверыў у Змёртвыхпаўстанне, а таму яго часта называюць “Тамаш, які не верыць”. Падчас наступнага з’яўлення ўваскрослы Збаўца звярнуўся да Тамаша, каб той на ўласныя вочы пераканаўся, што перад ім – Сам Езус, на што Тамаш усклікнуў: “Пан мой і Бог мой!” Пасля ўнебаўшэсця Хрыста апостал накіраваўся ў місію ў Персію і Індыю, дзе, паводле падання, сустрэўся з трыма каралямі, ахрысціў іх і прызначыў біскупамі. Каля 72 г. прыняў мучаніцкую смерць у Індыі: быў забіты паганцамі мячом або дзідаю. Ён лічыцца апекуном горада Рыгі, а таксама архітэктараў, будаўнікоў і геолагаў. Яго заступніцтва просяць, молячыся аб шчаслівым сужэнстве.

**11 ліпеня – успамін святога Бэнэдыкта, абата, апекуна Еўропы.**

Святы Бэнэдыкт – айцец манаства на хрысціянскім Захадзе – нарадзіўся каля 480 г. у Нурсіі (Паўднёвая Італія) і паходзіў з багатай сям’і. Пакінуўшы вучобу ў Рыме, стаў жыць пустэльнікам. Праз пэўны час вакол яго сабралася шмат іншых манахаў. Каля 529 г. ён разам з паплечнікамі заснаваў на поўдзень ад Рыма славуты кляштар Монтэ-Касіна. Асноўным правілам манаскага жыцця ў ім былі словы “Ora et labora” (“Маліся і працуй”), якія сталі дэвізам ордэна бэнэдыктынцаў. У Монтэ-Касіна Бэнэдыкт напісаў статут “Ordo Sancti Benedicti”, які стаў асноваю для большасці манаскіх супольнасцяў Захаду. Заснаваны ім ордэн бэнэдыктынцаў на працягу стагоддзяў быў найбольш значным духоўным, культурным і навуковым асяродкам Еўропы. У 590 г. бэнэдыктынец упершыню стаў Папам. Гэта быў святы Грыгорый Вялікі – славуты касцельны рэфарматар, які пакінуў найбольш звестак пра святога Бэнэдыкта (і пазней вельмі часта на Пасадзе святога Пятра знаходзіліся менавіта бэнэдыктынцы). Святы Бэнэдыкт памёр 21 сакавіка 547 г. і быў пахаваны ў Монтэ-Касіна каля магілы сваёй сястры-блізняці святой Схаластыкі. Святы з’яўляецца апекуном Еўропы і ўсяго Захаду, а таксама настаўнікаў і школьнікаў.

**16 ліпеня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з гары Кармэль (Маці Божай Шкаплернай).**

У XIV ст. на гары Кармель у Палесціне існаваў ордэн, чальцы якога, духоўныя сыны прарока Іллі, называлі сябе братамі Найсвяцейшай Панны Марыі. Кармеліты вялі жыццё, адданае малітве, працы і пакаянню, захоўваючы цноты чысціні, убоства і паслухмянасці. У канцы XIII стагоддзя ў сувязі з пераследаваннямі з боку мусульманаў, рэлігійнымі войнамі з туркамі і заняпадам Касцёла на Святой Зямлі законнікі былі вымушаныя выехаць у Еўропу. Тут, у новым асяроддзі, перад маловядомым законам узнікла пагроза роспуску. У такім цяжкім становішчы генерал закона Сымон Сток пачаў прасіць Марыю, каб Яна захавала прысвечаны Ёй закон. У адказ на шчырую малітву Марыя аб’явілася святому Сымону ў ноч з 15 на 16 ліпеня 1251 г. У атачэнні анёлаў, указваючы на шкаплер, Яна асвяціла яго знакам Сваёй Матчынай апекі, сказаўшы: “Гэта будзе прывілей для цябе і для ўсіх кармелітаў: хто ў ім памрэ, не зведае агню пякельнага”. Пасля таго аб’яўлення зніклі ўсе перашкоды і закон пачаў пашырацца па ўсёй Еўропе. Праз 70 гадоў Маці Божая аб’явілася Святому Айцу Яну XXII і, пацвярджаючы папярэдня прывілеі (асаблівую апеку ў зямным жыцці і пазбаўленне ад агню пякельнага), абвясціла, што кожны, хто ў момант смерці будзе мець на сабе Яе шкаплер, у першую суботу пасля смерці будзе выведзены з чысца ў неба.

**25 ліпеня – успамін святога Крыштафа, які з’яўляецца апекуном кіроўцаў.**

У гэты дзень у каталіцкіх святынях адбываецца блаславенне кіроўцаў і асвячэнне транспартных сродкаў.

**26 ліпеня – успамін святых Яўхіма і Ганны, бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Ушанаванне святога Яўхіма і святой Ганны распаўсюджанае ва ўсім Касцёле, як на Усходзе, так і на Захадзе. Па меры таго, як пашыраўся культ Маці Божай, узрастала таксама паўсюднае шанаванне яе бацькоў. Ужо ў IV–V стст. у Ерузалеме пры былой купальні Віфезда была пабудаваная капліца, прысвечаная святым Яўхіму і Ганне. Тут нават, згодна з паданнем, павінна размяшчацца іх грабніца. Іншым месцам іх пахавання лічаць Алейную гару.

Літургічнае шанаванне бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі паўстала спачатку на Усходзе. Свята ўвёў у 710 г. імператар Юстыніян II пад назвай “Зачацце св. Ганны”. Яно святкавалася ў розныя дні альбо разам са святам св. Яўхіма. На Захадзе яно стала адзначацца пазней. У Неапалі свята вядомае з X ст. Папа Урбан VI у буле “Splendor æternæ gloriæ” ад 21 чэрвеня 1378 г. дазволіў спраўляць гэтую ўрачыстасць у Англіі. Папа Юлій II у 1522 г. распаўсюдзіў яго на ўвесь Касцёл і прызначыў датай 20 сакавіка. Аднак Папа Павел V у 1568 адмяніў гэтае свята, спаслаўшыся на тое, што пра бацькоў Багародзіцы нічога не паведамляецца ў кнігах Святога Пісання. Тым не менш, перамагло меркаванне, што гэтыя бацькі існавалі і што ім належыць асаблівая пашана. Таму Папа Грыгорый XIII аднавіў свята (1584) і прызначыў для яго дзень 26 ліпеня. Папа св. Пій X у 1911 г. увёў асобны дзень ушанавання св. Яўхіма, прызначыўшы яго на 16 жніўня. Свята св. Ганны працягвала адзначацца 26 ліпеня. Але літургічная рэформа 1969 г. зноў злучыла разам іх імёны ў дзень 26 ліпеня.

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***


Ксёндз Мікалай Ліпскі асвячае транспарт. Лучай, 2015

## На ліпень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Міхал Татарэнка** *(Лужкі)*;

**3 ліпеня** – імяніны адзначае **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*;

**5 ліпеня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **а. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*; дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. Раман Мурзіч** *(Параф’янава)*;

**7 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

**10 ліпеня** – імяніны адзначае **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*;

**14 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*;

**15 ліпеня** – імяніны адзначаюць **а. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*, **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Дуброўна)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*;

**16 ліпеня** – дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*, **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*, **кс. Генадзь Ляўкоў** *(Дрысвяты)*;

**17 ліпеня** – імяніны адзначае **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*;

**20 ліпеня** – імяніны адзначае **а. Чэслаў Курэчка MIC** *(Росіца)*;

**21 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*;

**22 ліпеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*, **а. Віталь Сапега OP** *(Віцебск)*; імяніны адзначае **а. Крыштаф Коц’ян OP** *(Віцебск)*;

**25 ліпеня** – імяніны адзначаюць **ксёндз прэлат Крыштаф Міекіна** *(Мёры)*, **а. Крыштаф Коц’ян OP** *(Віцебск)*, **а. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Шаркаўшчына)*; дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*, **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*, **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*, **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*;

**28 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Анджэй Бульчак** *(Паставы)*; імяніны адзначае **кс. Віктар Місевіч** *(Віцебск)*;

**30 ліпеня** – дзень святарскага пасвячэння адзначае **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*.

*Падрыхтаваў*
***Зміцер Лупач***



# Святы, які курыў люльку

**Блаславёны Пётр Фрасацці (1901–1924)**

**За сваё нядоўгае, але вельмі багатае на падзеі жыццё, Пётр паспеў неаднаразова пабываць за кратамі. І хоць гэта не былі доўгія турэмныя тэрміны, аднак факт застаецца фактам. Кароткія затрыманні не былі вынікам моладзевай бязглуздасці або хуліганскага характару хлопца. Наадварот, яны сведчылі пра яго актыўную грамадзянскую пазіцыю: паліцыя затрымлівала Пятра на дэманстрацыях супраць новага ў Італіі руху фашыстаў.**

**айцец Андрэй Сідаровіч MIC**, *Росіца*

Дар веры Пётр атрымаў ад сваіх выхавальнікаў і нянек. Яны, простыя людзі, хлопцу практычна з інтэлігентнай або нават арыстакратычнай сям'і перадалі Добрую Навіну пра Збаўцу. Бацька будучага святога, адукаваны, паважаны чалавек, заснавальнік і выдавец агульнарэспубліканскай газеты, сенатар, пасол быў атэістам, а маці – прадстаўніца творчай багемы, мастачка – мала цікавілася справамі веры.

Ужо ў маленстве Пётр быў хлопчыкам незвычайным. З аднаго боку, яго пераследавалі нездавальняльныя вынікі ў навуцы. Вучоба не давалася настолькі, што двойчы (!) яму давялося заставацца на другі год. Пошукі адпаведнай школы для Пятра змусілі бацькоў аддаць яго на выхаванне езуітам. Менавіта там Пётр з падказкі аднаго з айцоў стаў больш маліцца і штодзённа прымаць Св. Камунію.

З іншага боку, Пётр вызначаўся неверагоднай уражлівасцю на пакуты іншага чалавека. Яшчэ будучы малым, ён, не вагаючыся, здымаў з сябе сандалікі ці калготкі, калі бачыў на вуліцы Турына, свайго роднага горада, бедную дзяўчынку.

Будучы студэнтам, Пётр, здавалася, не вылучаўся ад сваіх равеснікаў. Ён вельмі любіў жыццё ва ўсіх яго праявах. Лічыў, што вера павінна перадавацца праз радасць. Актыўна займаўся горным турызмам, быў чальцом розных моладзевых і рэлігійных суполак. Як мы адзначылі раней, ён не баяўся паказаць сваю грамадзянскую пазіцыю. На здымках яго часта можна ўбачыць з люлькай у зубах. Як і ўсё яго пакаленне, якое не ведала пра шкоду палення, любіў люльку з тытунём і сігары. Як кажа яго пляменніца Ванда, сёння ён бы стаў сімвалам здаровага жыцця і абавязкова кінуў бы курыць.

Была ў жыцці Пятра таямніца, якая аб'явілася ў дзень яго пахавання. Ён быў настолькі добрым і набожным чалавекам, што бацькі не маглі паверыць, адкуль прыходзяць гэтыя людзі, каб развітацца з іх сынам. На імя бацькоў Пятра прыйшлі сотні спачувальных тэлеграм з розных прытулкаў, якім дапамагаў будучы святы. Нават ведаючы пра яго хобі дапамагаць, ніхто і ўявіць не мог, які размах мела дабрачынная дзейнасць Пятра. Аказалася, што ён большасць свайго часу праводзіў у мікрараёнах Турына, куды ніводзін чалавек, які сябе паважаў, стараўся не заходзіць.

Пётр памёр так, як і жыў. У шпіталі ў апошнія хвіліны перад смерцю ад хваробы, якой заразіўся ад сваіх падапечных, Пётр ужо амаль спаралізаванай рукой напісаў адрас чалавека, катораму прасіў перадаць неабходныя лекі. Таму няма чаго і дзівіцца, што такіх пахаванняў, з удзелам тысяч людзей, Турын не бачыў даўно. А як можа быць інакш, калі хаваюць святога чалавека!

# Цяжарнасць і шлюб: пытанне святару

*"Хвала Хрысту. Мая знаёмая хацела ўзяць шлюб. Дзяўчына ўжо была цяжарная. Аднак святар не згадзіўся ўдзяліць сакрамант. Таму ў іншай парафіі бралі шлюб. Цікава, ці можа святар не даваць у такім выпадку шлюб? Адкажыце, калі ласка".*

**На пытанне адказвае айцец Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Дзякуй за пытанне, якое закранае адну найважнейшыхрэчаіснасцей чалавечага жыцця – сужэнства і сям'ю.

### Каштоўнасць сужэнства і сям'і

Шлюб – гэта вельмі сур'ёзны выбар маладых людзей, якія вырашаюць дзякуючы ласцы Божай жыць разам у долі і нядолі ажно да смерці. У сувязі з гэтым важна, каб рашэнне нарачоных пра сумеснае жыццё было прынятае ў поўнай свядомасці і свабодзе, не паспешліва ды не пад уплывам знешніх фактараў, напрыклад, такіх, як прымус ці страх. Каталіцкі Касцёл пераканаы, што сужэнства – гэта не толькі саюз, які вынікае з самой натуры чалавечай асобы, але асаблівая годнасць, дадзеная самім Богам. Ва ўводзінах да ***Парадку цэлебрацыі сужэнства*** чытаем: *"Сужэнскі саюз, праз які мужчына і жанчына ўтвараюць паміж сабою супольнасць на ўсё жыццё, набывае сэнс і моц ад акту стварэння, але, будучы сакрамантам Новага Запавету, ён уздымаецца дзеля хрысціянаў да вышэйшай годнасці".* Такім чынам разумеем, што сужэнства ўзнікае, калі мужчына і жанчына (маладыя) свабодна аддаюць і прымаюць узаемна адно аднаго. Кажам тут пра свабоду, якая з'яўляецца неад'емнай умовай для заключэння шлюбу, шчаслівага жыцця ў будучыні, дзеля дабра саміх сужэнцаў і іх дзяцей, а таксама дасягнення вечнага шчасця ў нябеснай хвале.

### Цяжарнасць – не перашкода для сужэнства

З пытання вынікае, што маладыя людзі, якія звярнуліся да святара з просьбай аб сакраманце шлюбу, сустрэліся з адмовай. Ведаем таксама, што дзяўчына была цяжарнай. Аўтар пытання мяркуе, што святар адмовіў у сужэнстве менавіта па прычыне цяжарнасці. Вельмі складана, абапіраючыся на пададзеныя звесткі, адназначна адказаць на пастаўленае пытанне. Адно можна сказаць з упэўненасцю: цяжарнасць сама па сабе не з'яўляецца перашкодай да сужэнства. Касцёл безупынна абвяшчае і ахоўвае каштоўнасць ды годнасць кожнага чалавечага жыцця. Ёсць маладыя людзі, якія ідуць да шлюбу, кіруючыся прагненнем, каб зачатае ўжо дзіця нарадзілася і расло ў атмасферы любові ў поўнай сям'і. Жыццёвы вопыт паказвае, што такія сужэнствы часта застаюцца шчаслівымі ўвесь час. Бываюць, аднак, выпадкі, калі маладыя людзі, часта пад уплывам сваіх блізкіх, вырашаюць заключыць сужэнства ў сувязі з цяжарнасцю.

Цалкам іншая сітуацыя, калі цяжарнасць нейкім чынам прымушае ўзяць шлюб дзяўчыну і хлопца, якія насамрэч або не маюць жадання заключаць сужэнскі саюз або не кахаюць адно аднаго па-сапраўднаму. У дадзеным выпадку няма поўнай свабоды і згоды, што ў сваю чаргу можа быць перашкодай для заключэння сужэнства. Калі б святар, які дапамагае маладым адпаведным чынам падрыхтавацца да шлюбу, выявіў такія акалічнасці, то ён не павінен згадзіцца на шлюб. Бывае і так, што родныя прымушаюць маці і бацьку зачатага жыцця заключыць сужэнства, каб не было сораму.

Безумоўна, аргументацыя можа быць і іншай. Калі маладыя насамрэч не кахаюць адно аднаго, аднак па прычыне пашаны да сваіх бацькоў вырашаюць узяць шлюб, то гэта можа прывесці да сумных вынікаў. Святар, які выявіць падобныя акалічнасці, не можа даць згоды на шлюб. На прыведзеных прыкладах ясна бачна, што перашкодай да шлюбу не з'яўляецца цяжарнасць, але яе інструментальнае выкарыстанне, што ў сваю чаргу ў будучыні магло б адмоўна паўплываць як на жыццё саміх сужэнцаў, так і іх дзяцей.

Мы не ведаем, як было ў дадзенай сітуацыі. Спадзяюся, што заключаны сужэнскі саюз тых, каго датычыць пытанне, будзе трывалым, шчаслівым, напоўненым любоўю ды павагай адно да аднаго і адкрытым на дзеянне Божай ласкі. Ад усяго сэрца ім гэтага жадаю! Божа, блаславі!

### Шлюб па-за сваёй парафіяй

Другая частка пытання датычыць заключэння сакраманту шлюбу ў іншай парафіі. Згодна з заканадаўствам Касцёла, сужэнства павінна заключацца ў парафіі, дзе хоць адзін бок мае пастаяннае або часовае



месца жыхарства (пар. Кодэкс Кананічнага Права, кан. 1115). Такім чынам, у звычайным парадку нарачоныя могуць заключыць сужэнскі саюз ў парафіі маладога або маладой. Калі ж па нейкай прычыне яны хочуць узяць шлюб па-за сваёй парафіяй, то павінны звярнуцца да свайго пробашча з просьбай пра дазвол, які называецца ліцэнзіяй. Карацей кажучы, сужэнства не можа быць заключана па-за парафіяй нарачонага ці нарачонай без адпаведнага дазволу пробашча іх парафій. Складана адказаць, чаму ў адной парафіі святар не згадзіўся на шлюб, а ў іншай паблаславіў маладажонаў. Мы маем права думаць, што прычынай не была цяжарнасць. Не ведаем таксама, ці нарачоныя належалі да парафіі, у якой адбыўся шлюб, аднак мяркуем, што гэта так, бо ў іншым выпадку, пробашч не мог бы даць дазвол.

### Вартасць малітвы аб святасці сужэнцаў і сям'і

На заканчэнне нагадаем, што сужэнства – гэта сакрамант любові і сувязі, якая ажыццяўляецца, калі жонка і муж разам моляцца, працуюць, размаўляюць і калі яны клапоцяцца пра жыццё сваё, а таксама сваіх дзяцей. Таму перад заключэннем сужэнства нарачоным і душпастырам трэба пераканацца, што нічога не перашкаджае яго сапраўднасці і годнасці. Вернасць, узаемная пашана і падтрымка на працягу ўсяго сумеснага жыцця дзякуючы ласцы сакраманту дапамагаюць сужэнцам неперарыўна кахаць адно аднаго. Паколькі сужэнства ёсць дарам Божага Провіду, то неабходна памятаць і пра яго духоўнае вымярэнне і аднясенне да Бога. Сужэнцы праз малітву, удзел у сакрамантальным жыцці Касцёла, літургіі і набажэнствах набліжаюцца да Бога, а таксама да сябе. Касцёл пастаянна моліцца за сужэнствы і сем'і, разумеючы, што яны патрабуюць Божай ласкі на працягу ўсяго жыцця, каб як найлепш здзейсніць план Самога Бога адносна чалавецтва. Заахвочваю чытачоў "Каталіцкага Весніка" штодня ўзносіць малітвы праз Хрыста, нашага Пана, пра святасць сям'і ў нашай краіне і ва ўсім свеце.

## Шаноўны ксёндз Павел Кнурэк! Дарагі наш пробашч!



*Шчыра віншуем Вас з імянінамі, якія Вы адзначаеце ва ўрачыстасць святых апосталаў Пятра і Паўла. Жадаем Вам моцнага здароўя, хрысціянскай радасці, аптымізму, поспехаў у штодзённых справах, разумення волі Божай для Вас і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі!*

*У гэтым годзе Вашы імяніны супадаюць з гадавінай служэння ў нашай парафіі. Вялікі дзякуй за працу ў нашай супольнасці, за мудрыя казанні, карысныя парады, за тлумачэнне Божага Слова, за сужэнскія сустрэчы і шматлікія катэхезы, якія Вы праводзіце! Няхай добры Бог аддзячыць Вам за Вашу працу і напоўніць сэрца Вашае любоўю да кожнага з нас! Той доўгацярплівай любоўю, якая ўсё пераносіць, ва ўсё верыць, заўсёды спадзяецца і ніколі не знікае. А мы абяцаем Вас радаваць і ўвасабляць Вашыя казанні ў жыццё!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў г. Віцебску***

## Хвала Хрысту!



*12 чэрвеня адзначае Дзень пасвячэння ў святары наш **ксёндз Аляксандр Дулінец**.*

*Дай Бог Вам, шаноўны ксёндз Аляксандр, моцнага здароўя, мудрасці, сіл, цярпення, Божай дапамогі і блаславення ва ўсіх шматлікіх справах і пачынаннях!*

*Мы цэнім Вашу энергію, здольнасці, індывідуальнасць. Дзякуем за тое, што запальваеце ў нашых сэрцах агонь любові да Бога, за мудрыя парады, за спагадлівасць і чуласць!*

***Са словамі ўдзячнасці, вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста ў Падсвіллі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Ад шчырага сэрца віншуем **ксяндза Паўла Самсонава** з Днём нараджэння (15 чэрвеня) і імянінамі (29 чэрвеня)!*

*Сардэчна дзякуем за ахвярную працу і нязгасны запал на нялёгкім святарскім шляху, за ўпрыгожванне набажэнстваў цудоўным спевам, за мудрыя казанні і разважанні над Божым словам, якія кранаюць людскія душы!*

*Асаблівая падзяка за працу па рэстаўрацыі і аздабленні нашай святыні, за кіраўніцтва рамонтам. Ксёндз Павел – сапраўдны гаспадар! Зробленай працы не пералічыць.*

*Паважаны ксёндз-пробашч, дэкан Пастаўскага дэканата! Няхай Святы Дух і надалей натхняе Вас на плённую і доўгую святарскую службу! Няхай заўсёды побач будуць надзейныя сябры, калегі, добразычлівыя людзі, а ў сэрцы паселяцца супакой, дабрыня, любоў і радасць!*

*Дзякуем Вашым бацькам за сына-святара і зычым ім здароўя, Божага блаславення і ўсіх патрэбных ласкаў!*

***Вернікі парафіі Найсвяцейшай Тройцы, в. Дунілавічы***

## Хвала Хрысту!

*15 чэрвеня – Дзень нараджэння **ксяндза Паўла Самсонава.** Хоць ён даўно ўжо не працуе ў нашай парафіі, але наведваецца да нас рэгулярна. У ксяндза Паўла вялікае і добрае сэрца. У чэрвені мы молімся да Сэрца Езуса аб патрэбных ласках для ксяндза Паўла!*

***Ад імя ўдзельнікаў хору касцёла Святой Тройцы ў в. Канстанцінава (Глыбоцкі дэканат) – Вольга Пяткевіч***

**Правільныя адказы на тэст са стар. 9**
1 – Б; 2 – А; 3 – Б; 4 – В; 5 – А; 6 – А; 7 – А; 8 – В.

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*24 чэрвеня – імяніны ў нашага шаноўнага **ксяндза Яна Пугачова**.*

*Віншуем ксяндза Яна з гэтай нагоды і жадаем яму моцнага здароўя, ажыццяўлення ўсіх планаў і задумак, поспехаў у душпастырскай працы.*

*Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень, які будзе асвечаны любоўю і міласэрнасцю, супакоем, шчасцем, верай, надзеяй! Езус няхай заўсёды будзе Вашым сябрам, а Маці Божая Ласкавая заўсёды трымае Вас, паважаны ксёндз Ян, пад сваёй апекай! Няхай Святы Ян Хрысціцель заўсёды будзе побач з Вамі!*

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, удзельнікі апостальскага малітоўнага руху “Маргарытка” парафіі Перамянення Пана ў в. Германавічы***

## Шаноўны ксёндз Ян Пугачоў!

*Віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, каб доўга служылі людзям, каб вялі за сабой не адно пакаленне, каб дапамагалі знайсці сапраўдную дарогу ў жыцці тым, хто не знайшоў яшчэ шляху да Бога. Жадаем бадзёрасці і аптымізму, цярпення і вытрымкі. Няхай Ваша вера, Ваша жыццё з Богам прыносіць шмат радасці Вам і навакольным! Зычым Вам Божага блаславення і апекі Маці Божай! Няхай Міласэрны Бог узнагародзіць Вас за ўсе Вашы добрыя справы!*

***Вернікі парафіі Перамянення Пана ў в. Германавічы***

## Хвала Хрысту!



*Шаноўны наш **айцец Мікалай**! Прыміце наша віншаванне з нагоды першай гадавіны службы (26 чэрвеня) у парафіі святой Марыі Магдалены!*

*Мы вельмі ўдзячныя Вам за шчырыя малітвы, за павучальныя казанні, зычлівасць, дабрыню, сціпласць, цярплівасць, за цудоўную ўсмешку, за клопаты пра людзей і ахвяраванне служыць у нашай парафіі, а Вашым бацькам – за сына-святара, штодзённую прысутнасць з ім і за дапамогу ў яго нялёгкай працы.*

*Няхай здароўе Ваша будзе моцным, творчыя сілы – бясконцымі, а радасць ад плёну ў працы штодзеннай! Няхай заўсёды асвятляюць Вас промні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Панны Марыі!*

*Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святы Заступнік заўсёды знаходзіцца побач!*

***Вернікі касцёла святой Марыі Магдалены (Новалукомль, Чашніцкі раён)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шчыра віншуем **ксяндза Антонія Лагунёнка** з нагоды імянін (13 чэрвеня)!*

***Да Панны Марыі малітвы ўзносім,***
***За кожны Ваш дзень Пана Езуса просім!***
***Хай будзе здароўе, любоў і цяпло,***
***Жыццё каб цікавым і доўгім было!***

***Дарогі – шчаслівай, а справы – удалай,***
***Каб дома матуля заўсёды чакала!***
***Ніякія цяжкасці хай Вас не страшаць:***
***Пан Бог дапаможа ў цяжкасцях Вашых!***



*Няхай Езус заўсёды будзе Вашым сябрам, а Маці Божая хай прытуляе да сэрца і дапамагае ва ўсіх Вашых справах!*

***З удзячнасцю і малітвай ад вернікаў парафіі святога Язафата Кунцэвіча ў Канстанцінаве, Часлава Вышадка***

## Шчырыя віншаванні!

*Паважаны **ксёндз-пробашч** парафіі Маці Божай Унебаўзятай з в. Канстанцінава (Мядзельскі дэканат) **Алег Мурзіч**!*

*Прыміце нашы шчырыя віншаванні з нагоды 20-ай гадавіны святарскага пасвячэння! Няхай Вечны Святар, Які аздабляе Вашае сэрца вернасцю, праўдаю і прыгажосцю Евангелля, умацоўвае Вас у нязгаснай веры, адорвае здароўем, святарскім шчасцем, цярплівасцю і вытрымкай на ўсе гады Вашага нялёгкага пастырскага служэння дзеля ратавання людскіх душаў! Хай Дух Святы апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, і ўсё ў Вашым жыцці няхай будзе згодна з воляй Бога! Вашае прыгожае служэнне, Ваш цудоўны спеў няхай доўга і шчасліва гучаць у нашым касцёле на радасць нам і на Божую хвалу. Будзьце прыкладам веры для кожнага з нас. Абдымаем Вас сэрцам і малітвай!*

*А таксама дасылаем сардэчныя віншаванні з днём імянін маме нашага паважанага святара, шаноўнай Яніне Эдуардаўне Мурзіч, якая нарадзіла і выхавала трох сыноў, двух з якіх выправіла на служэнне Богу і людзям!*

*Паважаная Яніна Эдуардаўна! Няхай моцным будзе Ваша здароўе, а ў душы назаўсёды паселіцца супакой і дабрыня! Няхай слаўны Анёл-Ахоўнік, святы Ян, абярагае Вас у зямным жыцці ад бедаў і непрыемнасцяў, дадае сіл і жыццёвай мудрасці. І ўсе ласкі Божыя няхай сыходзяць на Вас у знак удзячнасці за сыноў-святароў! А ў дзень Святога Яна мы абяцаем Вам сваю шчырую малітву.*

***З павагай і дарам малітвы ў сэрцы, удзячныя вернікі парафіі Маці Божай Унебаўзятай з в. Канстанцінава (Мядзельскі дэканат)***

## Хвала Хрысту!



*Шчыра віншуем нашага **ксяндза Зянона Шчонхара** з імянінамі! Жадаем Вам, шаноўны ксёндз Зянон, плёну ў душпастырскай працы, добрага здароўя, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога! Няхай міласэрны Бог ахоўвае Вас ад бедаў і блаславляе ў служэнні касцёлу!*

***Вернікі касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах***

## Хвала Хрысту!



*Святары, сёстры-эўхарысткі, вернікі Санктуарыя Маці Божай Браслаўскай Валадаркі Азёраў дасылаюць пяшчотныя словы віншавання **ксяндзу Яўгену Жукоўскаму SDS** з прыняццем святарскіх пасвячэнняў (26 мая 2018 года)!*

## Хвала Хрысту!

*15 чэрвеня адзначыла Дзень нараджэння **сястра Людміла Рубніковіч**, наша закрыстыянка.*

*Шчыра віншуем яе з гэтай нагоды! Жадаем здароўя, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога, творчага падыходу да ўсіх спраў, якія служаць на карысць Святога Касцёла і парафіі!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Віншуем!

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка” шчыра віншуе нашу супрацоўніцу **Ірыну Радзевіч** і яе мужа Паўла Радзевіча з нараджэннем дачушкі Арыяны! Жадаем дзіцятку ўзрастаць у ласцы Божай на радасць бацькоў і блізкіх! Няхай добры Бог блаславляе сям’ю Радзевічаў і адорыць яе шчасцем, супакоем і дабрабытам!*





## Хвала Хрысту!

*24 чэрвеня – імяніны ў нашага* ***ксяндза-вікарыя Івана Кароткіна****. Малады, энергічны, працалюбівы, добрасумленны святар аддае ўсе свае сілы на служэнне Святому Касцёлу.*

*З пачуццём глыбокай павагі віншуем шаноўнага ксяндза Івана! Няхай Пан Бог узнагародзіць яго за адданую працу ў нашай парафіі, за абвяшчэнне Божага слова, за добрае сэрца, за працу з моладдзю і за малітвы ў нашых інтэнцыях! А мы будзем маліцца за Вас, паважаны ксёндз Іван!*

***З любоўю і павагай, парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***



## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем з імянінамі нашага пробашча –* ***ксяндза Антонія Лагунёнка****! Жадаем яму па прыкладзе святога Антонія натхнёна трымаць на руках Дзіцятка Езуса! Таксама зычым поспехаў у душпастырскай працы.*

***Вернікі парафіі святога Язафата Кунцэвіча ў в. Канстанцінава***

## Віншуем!

*З сардэчнай цеплынёй і малітоўнай памяццю віншуем былога* ***ксяндза-пробашча Алега Півавара****, які 13 чэрвеня адзначаў імяніны!*

*Сваёй высакароднай святарскай працай, добрасумленнасцю ён заслужыў павагу і любоў усіх вернікаў нашай парафіі. Мы ўдзячныя Пану Богу за гэтага святара, бо ён заўсёды разумее і падтрымлівае нас.*

*Мы заўсёды памятаем пра Вас, ксёндз Алег, у сваіх малітвах. Ад усяго сэрца жадаем Вам жыццёвай разважлівасці, Божай ласкі на кожны дзень, моцнага здароўя на доўгія гады, шмат сіл, цярпення і вытрымкі ў душпастырскай працы, здзяйснення ўсіх мар!*

*Няхай Ваш святы Заступнік Антоній Падуанскі нястомна моліцца за Вас перад Божым тронам, апякуецца Вамі і суправаджае па жыцці пуцяводнай зоркай!*

*Дарагі наш ксёндз Алег! Мы любім Вас і чакаем у госці!*

*Сардэчна дзякуем Вашым бацькам за выхаванне сыноў-святароў. Няхай Пан Бог адорыць іх моцным здароўем і патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая Нястомнай Дапамогі апякуецца штодзённа!*

***Данута Голубева, ад імя ўсіх вернікаў парафіі Святога Айца Піа ў г.п. Лёзна***

***

Прапішы ў сваім сэрцы любоў,
Каб яна там жыла і натхняла,
Каб знаходзіла тысячы слоў –
Самых добрых для родных, каханых.

Прапішы ў сваім сэрцы вясну,
Каб яна красавала, вітала
І дарыла спакой, чысціню,
Вольнай птушкай да неба ўзлятала.

Прапішы ў сваім сэрцы святло,
Каб яно, як праменьчык, зіхцела,
Каб дарыла спагаду, цяпло
І заўсёды нязгасна гарэла.

Прапішы светлых мараў палёт,
І цярпенне, і ласку, і ўдачу,
І усмешку ў вачах круглы год,
І надзею, і веру ўпрыдачу.

***Даната Варабей*** *(г. Мядзел)*



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

На тэрыторыі нашай парафіі знаходзяцца могілкі Бальнова. Там пабудавана прыгожая драўляная каплічка, якой ужо сто гадоў. На цэнтральнай сцяне гэтай капліцы размешчаны вялікі абраз Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі. Кожны год у свята Адведзінаў там праходзяць набажэнствы.

Па задумцы нашага пробашча Яна Пугачова гэтае набажэнства пачынаецца ў касцёле ў Германавічах. У нядзелю, 27 мая, усе ахвотныя сабраліся разам і пасля блаславення, якое ўдзяліў ксёндз Ян, вырушылі ў пілігрымку. Дарога недалёкая – усяго 9 км. Але шлях, які мы прайшлі за амаль чатыры гадзіны, стаўся асаблівым разважаннем над тым, як наша нябесная Маці Марыя пайшла паслужыць Альжбеце, которая праз цудоўную моц Божую ў старасці ўжо шэсць месяцаў насіла пад сваім сэрцам сына – Яна Хрысціцеля. Дарога Марыі была нялёгкая, далёкая і гарыстая, але спяшалася Яна, каб Кароль неба і зямлі, якога Марыя ўжо насіла ў сваім улонні, асвяціў і напоўніў Духам Святым Свайго папярэдніка і Яго бацькоў – Захарыя і Альжбету.

Увесь час нашай пілігрымкі мы спявалі марыйныя спевы, маліліся Ружанец, Вяночак да Божай Міласэрнасці, праслаўляючы Езуса Хрыста і Яго Маці, просячы ў Іх апекі і блаславення для нашай Айчыны.

У капліцы была магчымасць прыступіць да сакраманту споведзі, затым адбыліся святая Імша і працэсія вакол капліцы. На заканчэнне праспявалі гімн "Цябе, Бога, праслаўляем".

Нашы парафіяне старанна падрыхтаваліся да гэтага свята. На могілках і ў капліцы навялі чысціню і парадак. Уваход упрыгожылі сцяжкамі, алтар – прыгожымі кветкамі. З году ў год каплічкай апякуецца і падтрымлівае яе ў добрым стане сям'я Рэдзькаў.

На вуліцах у вёсках Прамяны і Сталіца гаспадары ветліва сустракалі пілігрымаў, частавалі цукеркамі і сокамі. Дзень быў прыгожы, сонечны, цёплы.

Мы вельмі ўдзячныя Пану Богу і нашаму ксяндзу Яну за такое свята, якое ўзрушыла многія сэрцы і напоўніла нас Духам пабожнасці і ўдзячнасці за дар жыцця!

***Ядвіга Мядзвецкая, Валянціна Маісеева – парафіянкі касцёла Перамянення Пана ў Германавічах***

## Хвала Хрысту!

*Сардэчна віншуем з нагоды Дня нараджэння (1 ліпеня) нашага ўсімі любімага* ***ксяндза Міхаіла Татарэнку****!*

*Паважаны ксёндз Міхаіл! У дзень свайго нараджэння прыміце шчырыя віншаванні ад парафіян касцёла Святога Міхаіла Арханёла!*

*Жадаем Вам шмат радасці, здароўя, нястомнага запалу духу ў святарскай паслузе! Няхай Найсвяцейшая Панна атуляе Вас Матчынай любоўю і апекай, асабліва ў складаныя жыццёвыя хвіліны, і выпрошвае ў Сына ўсе неабходныя ласкі!*

*Штодзённыя жыццёвыя намаганні няхай Вас, ксёндз Міхаіл, акрыляюць і дапамогуць заўважаць і захапляцца прыгажосцю і глыбінёй жыцця. Вы нястомна і самаахвярна будуеце духоўны падмурак нашай парафіяльнай супольнасці, праз абвяшчэнне слова Божага ведзяце нас па дарозе Праўды. Няхай Ваша мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей заўсёды будуць для нас прыкладам жыцця! Няхай любоў і супакой застаюцца назаўжды ў Вашым сэрцы!*

*Мы ўдзячныя Вам за сумленнасць і адданасць Божай справе, за Вашу шчырасць, за добрае сэрца і лагодную ўсмешку!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святога Міхаіла Арханёла, (аг. Лужкі Шаркаўшчынскага раёна)***

# Жанчына і музыка

**Шчыра віншуем з днём нараджэння арганістку камайскага касцёла Алену Даўжук (26 чэрвеня)!**

***Гармонія гукаў... хвіліны святыя,***
***Слязьмі пакаяння свяціўся іх след.***
***Да зорак ляцелі зямлі пазыўныя –***
***Жанчыну і музыку слухаў Сусвет.***

***Аркадзь Нафрановіч***

Жыла-была дзяўчынка. З васількавымі вачыма, са светлымі косамі і добрым сэрцам. Прыгожая і разумная, вясёлая і рухавая, яна ўсім была гатова прыйсці на дапамогу.

Добра вучылася ў школе. Захаплялася музыкай, прыгожа спявала. Пасля школы далейшае жыццё вырашыла прысвяціць музыцы – пайшла вучыцца на работніка культуры. Самастойна асвоіла ігру на гітары, баяне, раялі.

Закончыла вучобу, прыехала працаваць у Камаі. Сустрэла прыгожага, статнага хлопца Віктара, хутка пажаніліся. Выхавалі двое дзетак, дачакаліся светленькага слаўнага ўнучка Захарку.

Зараз Алена працуе ў дзіцячым садку. Асвоіла ігру на аргане. І кожная нядзельная Імша суправаджаецца арганнай музыкай і прыгожым спевам арганісткі. Да яе далучыліся сяброўкі-салісткі, і спеў атрымліваецца яшчэ больш прыгожым, багатым.

Дапамагае, вучыць, накіроўвае музычную дзейнасць арганісткі пробашч Камайскага касцёла ксёндз Яцэк. Яны працуюць зладжана. Разумеюць адно аднаго з паўслова. У канцы Імшы гучаць не толькі касцельныя, але і свецкія духоўныя песні з рэпертуару Булата Акуджавы, Алы Пугачовай, Аляксандра Малініна і інш. Алена і сама піша вершы і музыку, выпусціла дыск сваіх уласных песень. Маючы прыгожы моцны голас, прыроджаную артыстычнасць, яна магла бы выступаць на сцэнах вялікіх канцэртных залаў. Але выбрала Алена самую высакародную сцэну – касцельныя хоры, і з годнасцю служыць Богу і людзям.

У Камаі едуць і едуць экскурсіі, і Алена расказвае ім пра касцёл і арган, ладзіць канцэрты. І людзі заміраюць, слухаючы ігру і спевы арганісткі, шмат у каго на вачах з'яўляюцца слёзы. Многія пытаюца: "Хто яна? Адкуль прыехала?" І мы з гонарам адказваем: "Свая, наша, вырасла на камайскай зямлі".

Адна з парафіянак напісала верш пра камайскі касцёл, ксяндза Яцэка і арганістку. Там ёсць такія словы: "Яна не галасам, яна душой спявае." І гэта праўда, але так спяваць можа толькі чалавек са светлай і чыстай душою. Яна часта выконвае песню з рэпертуару С. Міхайлава "Душа".

Калі б былы прафесар-арганіст, ураджэнец Камаяў Бранiслаў Руткоўскі пачуў ігру і спеў Алены, ён бы, напэўна, зняў капялюш, схіліў галаву і нізка пакланіўся б арганістцы, бо адна справа толькі іграць або толькі спяваць, а зусім іншая – спалучаць усё гэта разам ды прытым на самым высокім узроўні.

Дарагая Алена! Хай яшчэ доўга-доўга гучыць у нашым касцёле твой мілы голас, узносяцца ў неба гукі аргана, абуджаючы да веры сэрцы людзей!

Жадаем Божага благаслаўлення, апекі св. Цэцыліі, любові, дабра і святла, творчасці і шмат-шмат музыкі ў далейшым жыцці. Шчасця і здароўя табе, Алена, і тваім родным і блізкім!

***Ад імя парафіянаў камайскага касцёла, Генавефа Дубіловіч***

## Віншуем!

*Шчыра віншуем* ***арганістку Камайскага касцёла Алену Даўжук*** *з юбілейным Днём нараджэння!*

*Дарагая Лена! Прымі нашы віншаванні і найлепшыя пажаданні з нагоды прыгожага юбілею (26 чэрвеня)! Дзякуючы таленту кс. Яцэка, яго прапанове ігры на аргане і спеву арганісткі, салістак і касцельнага хору Імшы ў нашай парафіі праходзяць прыгожа і ўрачыста, непаўторна і запамінальна.*

*Хай яшчэ доўга-доўга гучыць у касцёле твой мілы голас, узносяцца ў неба гукі аргана, абуджаючы сэрцы людзей да веры.*

*Жадаем Божага бласлаўлення, апекі св. Цэцыліі, здароўя, любові, дабра і святла, творчасці і шмат-шмат музыкі ў далейшым жыцці!*

***З любоўю і павагай, парафіяне Камайскага касцёла***

# Как нужно общаться со Свидетелями Иеговы?

**Религиозный диалог со Свидетелями Иеговы чрезвычайно сложен. Польский епископ Зигмунд Павлович в своей книге даёт некоторые практические советы.**

Необходимо прежде всего не иметь никаких сомнений в том, что мы имеем дело с представителями нехристианской конфессии и что учение, которое проповедуют Свидетели, является ложным.

При этом нужно стараться относиться к Свидетелям Иеговы с уважением и христианской любовью. Это касается также и членов семей попавших в секту. Перед тем, как разговаривать с представителями этой организации, необходимо самим изучить ее доктрину, дабы через распознавание ошибок в этом учении сформировать критическую оценку, позволяющую опровергать эти ошибки и наставлять братьев по вере, особенно детей и молодёжь.

Каждый, кто вступает в контакт со Свидетелями Иеговы, не должен забывать о своей ответственности за апостольскую миссию Церкви (через свидетельство веры посредством личного примера жизни) и должен пытаться помочь собеседнику найти истинного Бога.

Хотелось бы обратить внимание на одну важную вещь: не каждый христианин способен вступать в диалог со Свидетелями Иеговы. Тем, кто осознает, что у них недостаточно знаний о своей вере, лучше не вступать в дискуссию, потому что, как правило, она не дает никакого результата. В таком случае диалог со Свидетелями Иеговы может очень легко превратиться в "борьбу взглядов", которая обычно не приносит ожидаемых плодов.

Есть много людей, которые активно участвуют в диалоге со Свидетелями Иеговы. Во многих городах существут "Информационные центры по новым религиозным движениям и сектам". Используя многолетний опыт работы таких центров, можно дать несколько советов, дабы встречи со Свидетелями Иеговы могли принести желаемый результат.

В частности, следует избегать фраз осуждающего характера. Услышав их, Свидетели могут почувствовать себя "пострадавшими за веру", что только укрепит их в дальнейшем пребывании в организации. Не нужно пытаться обратить их "силой". Модель правильного отношения к собеседнику – это прежде всего Иисус Христос и Его апостолы. Наш Господь, как ясно видно в Евангелиях, часто прибегал к методу, побуждающему слушателя самостоятельно мыслить и отвечать на правильно заданный вопрос (см. Мк 8, 27-30; 41-45). Такие вопросы должны помочь собеседнику задуматься о том, почему он присоединился к организации.

Обращение другого человека в конечном счете определяется Божьим милосердием: "Никто не может прийти ко Мне, если не привлечет его Отец, пославший Меня" (Ин 6,44). Поэтому Иисус указывает на пост и молитву как на существенное условие успеха евангелизации (см. Мк 9, 28-29).

Добавим в заключение, что ни организация Свидетелей Иеговы, ни Католическая Церковь не видят никаких оснований для ведения диалога. Невозможность такого диалога в первую очередь определяется доктринальными соображениями.

*Радио Ватикана*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**1 ліпеня 2018 г.**

***Мк 5, 21-43***

Езус дапамагае хворым. Нават памерлую Ён уваскрасіў. Тэмай сённяшняга Евангелля з'яўляецца вера.

Хворая жанчына шукала асабістага падыходу да Езуса. Спадзявалася, што досыць дакрануцца да Яго, каб атрымаць аздараўленне. Вера – гэта асабістая сустрэча з Богам. Таму Езус размаўляе з ёй і хваліць яе веру. Нам, хто верыць у Езуса, таксама трэба настойліва шукаць Яго і Яго волі, хадзіць за Ім.

У другім выпадку Езус гаворыць бацьку, якому толькі што паведамілі пра смерць дачкі: "Не бойся, толькі вер!" Ён паверыў і ўбачыў магутнасць Пана. Езус вучыць нас, што вера не павінна паддавацца спакусе страху, але мусіць упэўнена трымацца слова, сказанага Езусам. Вера – гэта не магічная энергія, якую мы ў сабе распаляем, і яна дзейнічае. Вера – гэта нашы адносіны з Езусам і наша адкрытасць на Яго, Яго дзеянне і Яго знакі.

*– Ці веру я ў Езуса, ці веру Яго словам?*

*– Ці не лічу, што вера – гэта мая моцная воля і жаданне?*

*– Ці шукаю Езуса ў сваіх праблемах, як жанчына з Евангелля?*

*– Ці знаходжу час на індывідуальную малітву, каб Ён дакрануўся да мяне, а я да Яго?*

*– Ці разумею, што ў Ім – асэнсаванне ўсяго, адказ на ўсе пытанні?*

*– Ці жыву я згодна з Яго словам?*

*– Ці веру, што Бог – Пан жыцця і вечнасці?*

*– Ці жыву згодна з гэтым перакананнем?*

*– Ці не хачу кіраваць сваім жыццём і ўсім светам без Бога?*

*– Ці не думаю, што лепш за Бога ведаю, што добра, а што дрэнна?*

*– Ці бываюць хвіліны, калі я насуперак меркаванню бязбожнікаў, раблю штосьці згодна з Божай воляй?*

*– Ці не паддаюся часам меркаванням натоўпу, які толькі пасвецку ацэньвае рэчаіснасць?*

*– Ці шукаю ў супольнасці Касцёла вечных каштоўнасцей?*

*– Ці будую супольнасць Касцёла, памятаючы пра Божае меркаванне і вучэнне?*

*– Ці не хачу звесці Касцёл да ўзроўню свецкай бязбожнай арганізацыі?*

*– Ці ўмацоўваю веру ў Касцёле, сваёй сям'і, парафіі?*

**8 ліпеня 2018 г.**

***Мк 6, 1-6***

Для таго, каб вера, якую мы разумеем як асабістыя адносіны з Богам, умацоўвалася і развівалася, патрэбна адкрытасць сэрца, прыняцце Яго і Яго волі. Калі чалавек закрывае сваё сэрца на Бога, то становіцца няздольным убачыць Яго знакі, прыняць Яго дары і ласкі. Трэба клапаціцца пра сваё сэрца, каб яно было адкрыта на Божую волю і Яго дзеянне. Трэба, каб чалавек дазволіў "рабіць цуды" ў сваім жыцці. Гэтай адкрытасці перашкаджае самаўпэўненасць, перакананне, што я ведаю і разумею ўсе Божыя дарогі і Яго таямніцы. Іншымі словамі – ганарлівасць. Найбольш падманлівае пачуццё – гэта пачуццё "сваяцкасці" ў адносінах да ўсяго неба, адчуванне, што "схапіў" Бога за бараду і, увогуле, ведаю ўсе грэшныя бакі жыцця Касцёла. На гэтым пачуцці шатан разыгрывае сваю песню, якая робіць сэрца чалавека акамянелым, сляпым, упартым і проста дурным.

*– Ці адкрыты я на Божае дзеянне?*

*– Ці не з'яўляецца прычынай таго, што мая вера не расце, мая перашкода Богу фарміраваць сябе?*

*– Магчыма, я не хачу прызнаць Бога настаўнікам і заканадаўцам?*

*– Магчыма, мая слабасць і мой грэх зламалі мяне, і я сумняваюся ў Божым дзеянні і Божай ласцы?*

*– Ці не пераканаў мяне шатан у тым, што ўсё ў маім жыцці прапала і нават Бог не справіцца?*

*– Магчыма, я бачыў зашмат падманлівасці і грэху сярод людзей Касцёла, і гэта мяне прыгнятае?*

*– Магчыма, я дазволіў шатану пераканаць мяне ў слабасці Бога?*

*– Ці не адчуваў я сябе так моцна набліжаным да Божых спраў, што вырашыў, быццам маю права сумнявацца ў Езусе, бо ведаю больш за іншых?*

*– Ці не прывяла мая недаверлівасць і непатрэбная перасцярога да таго, што мая вера сухая, без смаку, без цудаў і плёнаў, больш падобная да адпрацоўкі?*

*– Ці хачу адкрыць сэрца Езусу, каб Ён мог мяне перамяніць?*

*– Ці малюся за гэта?*

*– Ці спавядаюся?*

*– Ці слухаю, што Ён кажа ў Божым слове?*

**15 ліпеня 2018 г.**

***Мк 6, 7-13***

Езус пасылае вучняў, каб яны абвяшчалі Яго Валадарства. Нашыя бацькі прынялі Касцёл, які ад імя Хрыста абвяшчае Божае Царства. Не трэба, каб кожнае пакаленне нанова запрашала да свайго дому апосталаў. Яны не прыносяць багацця, толькі сапраўдны скарб – Езуса Хрыста. Сёння мы павінны прымаць вучэнне Касцёла, каб пыл, абтрэсены з сандаляў апосталаў, не стаў прычынай выраку ўсяму нашаму пакаленню. Езус пасылае сёння нас несці свету добрую навіну пра Бога. Самае важнае ў жыцці хрысціяніна – словам і прыкладам абвяшчаць Хрыста.

*– Ці прымаю я вучэнне Касцёла з любоўю і пашанай?*

*– Ці ведаю, што Бог пасылае да мяне людзей і хоча праз іх паклапаціцца пра мяне?*

*– Ці цвяроза гляджу на жыццё і ці ўмею адрозніць фальшывых прарокаў ад Божых апосталаў?*

*– А калі ўзнікаюць сумненні ў гэтым пытанні, ці звяртаюся да Касцёла з просьбай дапамагчы зразумець, што і хто ад Бога, а хто не?*

*– Ці з'яўляюся я апосталам Езуса?*

*– Як мае словы і ўчынкі сведчаць пра Езуса?*

*– Ці памятаю, што я павінен сведчыць пра Езуса, абвяшчаць Яго вучэнне, а не сваё ўласнае?*

*– Ці не бывае так, што хачу свае асабістыя справы вырашыць, прыкрываючыся Богам?*

*– Ці слухаю вучэнне Касцёла і ці не марную магчымасці паглыбіць свае рэлігійныя веды?*

*– Ці клапачуся пра ўласнае духоўнае развіццё?*

*– Ці ўмацоўваюся сур'ёзным вывучэннем сваёй веры?*

*– Ці ўпартасць мая не робіць мяне вартым толькі таго, каб перада мной абтрэслі пыл з ног?*

*– Ці цаню вучэнне веры і тых, хто мне яе перадае?*

*– Ці клапачуся матэрыяльна пра супольнасць Касцёла?*

**22 ліпеня 2018 г.**

***Мк 6, 30-34***

Езус з любоўю клапоціцца пра сваіх вучняў, каб яны адпачылі. Таксама Ён з пастырскім клопатам корміць сабраны народ словам і размножаным хлебам. Дзейнасць апосталаў была паспяховай, бо мы бачым вялікі натоўп ахвотных слухаць Езуса. Людзей прываблівае Асоба і дзейнасць Езуса. Бог прыйшоў у свет, каб прынесці яму Сваё Уцелаўлёнае слова – Езуса Хрыста. У сабраным натоўпе Ён бачыць разгубленых і страчаных авечак, літуецца над імі і дае ім Сябе – Дарогу, Праўду і Жыццё, тое, што і патрэбна разгубленым авечкам.

*– Ці сведчу я сваім жыццём пра тое, што ведаю Езуса і ведаю, дзе Ён?*

*– Ці абвяшчаю я словам тое, што Езус – мой Настаўнік і Пан?*

*– Ці памятаю, што павінен абвяшчаць Езуса, а не сябе?*

*– Ці не здараецца так, што сваімі словамі ці паводзінамі я займаю месца Бога і такім чынам даю дрэннае сведчанне пра Яго?*

*– Ці ведаю, што Ён клапоціцца пра мяне?*

*– Ці клапачуся я сам пра сябе, пра сваё жыццё і збаўленне згодна з Яго воляй?*

*– Ці бачу, што шмат людзей не ведае Бога і таму загубленыя?*

*– Ці гляджу з любоўю на людзей, якія няўмела шукаюць Бога?*

*– Ці разумею, што вучэнне Езуса – Слова Бога – гэта тое, што патрэбна мне і ўсім людзям да жыцця?*

*– Ці чытаю і ці разважаю над Божым Словам?*

*– Ці імкнуся ім жыць?*

*– Ці адданы я гэтай справе?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк,***
*Віцебск*

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

## Пра што не варта забываць падчас канікул?

Падчас канікул можна адпачыць ад урокаў і навукі. Аднак летам няма канікул ад Бога. Ён з намі побач кожную хвіліну. І ёсць пэўныя рэчы, ад якіх няма адпачынку нават летам і пра якія кожны з нас не павінен забываць. Што гэта, даведаешся, калі выканаеш заданне, якое табе прапаноўвае "Пазнавайка".

Прачытай правільна, ідучы па стрэлачках, і даведаешся, пра што не варта забываць падчас канікул. УВАГА! Кожнае новае слова пачынаецца з вялікай літары.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| П | с | ж | э | т | р | а | М | а | л | л | ь | н | ф | у! |
| а | ь | у | л | в | П | Ш | ю | д | і | е | к | у | с | ш |
| д | в | к | Н | о | й | т | у | а | т | з | я | ю | ё | м |
| ч | ю | і | е | м | а | о | н | м | в | д | ч | С | к | І |
| а | р | н | З | ф | в | д | н | с | у | я | й | в | о | ю |
| с | К | а | а | б | ы | з | ё | е | І | Н | т | я | т | у |

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ↓ | | | | | ↑ | ↓ | ↑ | → | ↓ | ↑ | → | ↓ | | ↑ |
| ↓ | | ↑ | ↓ | | ↑ | ↓ | ↑ | | ↓ | ↑ | | ↓ | | ↑ |
| ↓ | | ↑ | ↓ | | ↑ | ↓ | ↑ | | ↓ | ↑ | | ↓ | | ↑ |
| ↓ | | ↑ | ↓ | | ↑ | ↓ | ↑ | | ↓ | ↑ | | ↓ | | ↑ |
| ↓ | | ↑ | ↓ | | ↑ | ↓ | ↑ | | ↓ | ↑ | | ↓ | | ↑ |
| ↓ | → | ↑ | ↓ | → | ↑ | ↓ | ↑ | | ↓ | ↑ | | ↓ | → | ↑ |

Запішы атрыманы адказ тут______________________________

________________________________________________

________________________________________________

## Спосабы добрага адпачынку

Твая задача напісаць выпадкі, калі твой адпачынак падчас сёлетніх канікул будзе добрым.




## Малітва ў часе адпачынку

Кожны дзень падчас летніх канікул старайся маліцца словамі наступнай малітвы:

Божа! Падчас гэтых летніх канікул навучы мяне добра і правільна адпачываць і праводзіць вольны час! Прашу Цябе таксама, Езу, благаславі ўсіх дзяцей і дарослых, якія выязджаюць на адпачынак. Няхай яны паспяхова дасягнуць сваёй мэты і шчасліва вернуцца дамоў. Няхай Тваё дабраславенне, дарагі Божа, будзе са мной падчас усіх канікул. Амэн.

## Дапамажы хлопчыку ў адну з летніх сонечных нядзель прыйсці ў касцёл



## Знайдзі адрозненні

У прапанаваным малюнку знайдзі ўсе адрозненні.



## Пазнаём Святых: Святая Марта



Святая Марта была сястрою Марыі і Лазара з Бэтаніі. Езус сябраваў з імі, таму часта бываў у іх доме. Яна была вельмі гасціннай і добрай гаспадыняй, якая заўсёды клапацілася аб шматлікіх дамашніх справах.

Паводле легенды, пасля ўваскрасення Езуса Марта разам з братам і сястрою накіравалася ў Францыю, дзе абвяшчала Евангелле.

Часта на абразах святая Марта паказана як клапатлівая гаспадыня дома са звязкай ключоў на поясе, кухоннай лыжкай або з катлом з асвячонай вадой.

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***




# ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДНІ МОЛАДЗІ – 2018

**Дарагія сябры, вучні школаў, прафесійных навучальных установаў, студэнты ВНУ і працоўныя маладыя людзі не толькі з Віцебскай дыяцэзіі, але і іншых мясцін нашай краіны! Запрашаем вас на штогадовую дыяцэзіяльную сустрэчу моладзі.**

**Спатканне пройдзе з 23 па 25 ліпеня 2018 года** ў Санктуарыі Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе (г. Браслаў, вул. Савецкая 1).

Дэвіз ДДМ-2018: **“Моладзь – надзея Касцёла і грамадства”**

**Умовы ўдзелу:**

**Узрост:** 14-35 гадоў (у 14-15-цігадовых павінен быць апякун і пісьмовы дазвол ад бацькоў).

**Начлег:** у сем’ях і ў школе (мець з сабой карымат і спальнік).

**Асабісты ўклад:** 8 руб. ад удзельніка (арганізатары могуць вызваліць ад унёску пры цяжкім матэрыяльным становішчы).

**Рэгістрацыя:** Абавязковая рэгістрацыя ўдзельнікаў будзе працягвацца да 16 ліпеня.

**Запіс:**
+375295664833 (Viber, WhatsApp) – **кс. Алег Хмылко**.
e-mail: ddm.vicebsk@gmail.com
УКантакце: vk.com/ddm.vicebsk

**Запіс груп:** Трэба падаць назву парафіі і спіс удзельнікаў. Для кожнага ўдзельніка неабходна напісаць: імя і прозвішча, год нараджэння, кантактны тэлефон апекуна групы.

**Індывідуальны запіс:** Імя і прозвішча, год нараджэння, парафія, кантактны тэлефон.

**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце**
**Catholicnews.by**

# Праграма ўрачыстасцяў у Будславе

**Сёлетнія ўрачыстасці ў Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай пройдуць 1–2 ліпеня і будуць прысвечаныя 20-годдзю каранацыі цудатворнага абраза Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама моладзі – “надзеі Касцёла і грамадства”.**

**1 ліпеня**

**13.00 – 17.00** – сустрэча і прывітанне пілігрымаў кусташам санктуарыя а. Віктарам Бурлакам OFM;
**18.00** – святая Імша (цэлебруе дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі);
**20.00** – Набажэнства Акафісту (цэлебруе Апостальскі Візітатар для беларускіх грэка-католікаў архімандрыт Ян Сяргей Гаек MIC з удзелам хору Грэка-Каталіцкай Царквы);
**20.30** – Марыйныя Нешпары (цэлебруе кс. Ігар Лашук);
**21.30** – Рахунак сумлення;
**22.30** – З моладдзю ў малітве;
**23.30** – працэсія са свечкамі і копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай;
**24.00** – святая Імша (цэлебруе арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі).

**2 ліпеня**

**02.00** – моладзевая праграма ў намётавым мястэчку;
**02.00** – Боская Літургія паводле грэка-каталіцкага абраду;
**04.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
**05.30** – Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі;
**06.00** – святая Імша перад абразом Маці Божай (цэлебруюць айцы-бэрнардыны);
**07.00** – Фацімскі Ружанец;
**08.30** – святая Імша (цэлебруе дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец);
**10.00** – Сужэнскія сустрэчы;
**10.20** – прэзентацыя Новага Запавету на беларускай мове;
**11.00** – урачыстая св. Імша і Эўхарыстычная працэсія (цэлебруе Апостальскі Нунцый у Рэспубліцы Беларусь арцыбіскуп Габар Пінтэр).

**На заканчэннне ўрачыстасці – Апостальскае благаслаўленне, якое ад імя Папы Францішка ўдзеліць Апостальскі Нунцый.**

*catholic.by*



# Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

**Дарагія сябры!**

**Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

1. **Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*375295105172*2#**
2. **Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**
3. **Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*[код пацвярджэння]#**
4. **Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты “Каталіцкі Веснік”! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

***Рэдакцыя газеты “Каталіцкі Веснік”***



Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”
**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4141

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3400 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 20.06.2018 г. у 13.24

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь